


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 сакавіка 2003 года

№ 13 (414)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Прыйшоў газ

**МЯДЗЕЛ.** 22 сакавіка адзін з катлоў мядзельскай кацельні падключылі да прыроднага газу.

У кватэрах мядзельцаў пацяплела, бо мазуту, на якім кацельня працавала раней, было недастаткова. Ды і для ЖКГ працаваць на газе эканамічней. З часам будуць пераводзіць на газ і іншыя катлы кацельні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Тавары ў крэдыт

**ВАЛОЖЫН.** Тавары ў крэдыт пачалі рэалізоўваць у мясцовым універмагу.

Прытым крэдыт даецца беспрацэнтны. Гэта тычыцца абутку, тэлевізараў, трыкатажных і швейных вырабаў. Новыя падыходы ў рабоце з пакупнікамі закліканы пазбавіцца ад залежалага тавару ў магазіне.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Вясенні лёд

**СМАРГОНЬ.** У нядзелю ў штучным вадаёме ў вёсцы Жодзішкі патанулі 2 хлапчукі. Ім было 4 і 6 гадоў. Што рабілі дзеці на талым лёдзе без догляду дарослых – невядома.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

### Падпал

**АШМЯНЫ.** 20 сакавіка ў Кальчунах згарэў гараж.

Пажар здарыўся ў 3.45 ночы. Агонь знішчыў машыну "Фольксваген-Пасат", новыя секцыю і кухню. Прычына пажару – падпал. Узбуджаная крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

### Сацыяльны рынг

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду ў Палацы культуры прайшоў сацыяльны рынг "Горад, моладзь, праблемы".

Прадстаўнікам выканаўчай улады апанаравалі школьнікі і навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Гаварылі аб праблемах занятасці моладзі, 10-бальнай сістэме ацэнак ведаў, цяжкасцях пры ўладкаванні на работу, добраўпарадкаванні горада.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Летні час

У адпаведнасці з парадкам злічэння часу, вызначаным урадам краіны, 30 сакавіка Беларусь пераходзіць на "летні час".

Стрэлкі гадзіннікаў а 2-й гадзіне 30 сакавіка пераводзяцца на гадзіну наперад.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



# Беспрацоўны пасёлак

**ВІЛЕЙКА. Ніна Мінакова з пасёлка Партызанскі ўжо другі год беспрацоўная. Як яшчэ 300 чалавек, якія працавалі за шклозаводзе "Залессе".**

Іншай работы, акрамя як на заводзе, у Партызанскім няма. А завод стаіць. Спынены на рэканструкцыю. Рабочых скарацілі. Жыхары пасёлка пісалі лісты ў Мінск кіраўніцтву краіны з просьбай дапамагчы заводу запрацаваць. Адказаў не атрымалі. Бесперспектыўнасць становішча прымусіла Ніну Мінакову патэлефанаваць прэзідэнту Беларусі падчас "прамой лініі", якая праводзілася на мінулым тыдні.

– Дазванілася хутка, – успамінае Ніна, – маё пытанне аказалася чацвёртым-пятым. Першыя 2 разы, калі набрала тэлефонны нумар, адказалі, што такога нумара не існуе. На трэці раз злучылі з чалавекам у адміністрацыі прэзідэнта, які спытаўся ў мяне, аб чым я хачу паразмаўляць з прэзідэнтам. І потым мяне злучылі з Аляксандрам Лукашэнкам.

Мінаковы 7 гадоў таму прыехалі ў Партызанскі з Казахстана, адкуль родам галава сям'і **Іван Мінакоў**. Сыну **Максіму** прыйшла пара служыць, і таму яны махнулі на родную для маці Вілейшчыну. Купілі дом у Партызанскім і ўладкаваліся працаваць на шклозаводзе. Пасёлак раней лічыўся адным з самых багатых у раёне. Жыхары не плацілі за камунальныя паслугі і электрычнасць. Але прадукцыя згубіла рынкі збыту, завод набраў даўгоў і зачыніўся. Цяпер ідзе рэканструкцыя, завезлі новае абсталяванне, але справа спынілася, бо няма грошай.

Іван Мінакоў перабіваецца выпадковымі заробкамі ў прыватнікаў. Максім стаіць на ўліку ў Вілейскім цэнтры занятасці, цяпер вучыцца на зваршчыка. Яго жонка цяпер у дэкрэтным адпачынку з сынам **Вадзімам**, якому 2,5 года. Працавала на Ільянскім хлебазаводзе, але, гавораць, і там няма работы...

Занятасць увогуле ёсць. Сельскія гаспадаркі ў суседніх Карпавічах, Лукацы, Казлах запрашаюць да сябе працаваць, але жыхары Партызанскага туды не ідуць. Ніна Мінакова тлумачыць:

– Надта малыя заробкі ў калгасах: 5, 10, 20 тысяч рублёў. А гарбачыцца цэлы месяц трэба.

У Партызанскім цяпер жывуць толькі за кошт пенсіянераў. Яны тут – самыя багатыя людзі. У панядзелак у магазін прывезлі хлеб. У чарзе – амаль усе пенсіянеры. Карэспандэнту "РГ" давялося шмат расказаў выслухаць аб невясёлым жыцці ў Партызанскім. Партызанцы злыя становішча. Летась за год каля 30 пажараў вяскоўцы налічылі. Гарыць нешта амаль кожны тыдзень. Скардзяцца тут, што шмат стала крадзяжоў. Але злодзееў строга тут не судзяць – ёсці ж хочацца.

Партызанцы запэўнівалі, што на мінулых выбарах усе як адзін падтрымалі цяперашняга прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка на пытанне Ніны Мінаковай адказаў:

– Пастараемся разабрацца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



У магазін, што ў пасёлку Партызанскі, у панядзелак прывезлі хлеб. У чэргах за мяккім хлебам адныя пенсіянеры. Яны тут самыя багатыя людзі, астатнія нідзе не працуюць, бо спыніўся завод «Залессе». На здымку Фядора Тапічова, Аляксандра Кучко і Сафія Лашук.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Што будзе пасля вайны ў Іраку

Як вайна ў Іраку адаб'ецца на сусветнай эканоміцы? Ці вырастуць цэны на тавары ў беларускіх крамах? Як зменяцца курсы долара і еўра?

3-я старонка

### Іконы: мінулае і сучаснасць

Кожная ікона нясе сваю энергетыку. У фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея захавалася каля 400 прадметаў царкоўнага ўжытку.

5-я старонка

### Час пераасэнсаваць жыццё



Маладзечанскі цымбаліст Юрый Церабун адышоў ад актыўных заняткаў музыкай і вырошчвае коз на сваёй дачы.

8-я старонка

■ КОНКУРСЫ

# Лепшыя гаспадары

**МЯДЗЕЛ. Найлепшай у раёне прызналі сядзібу сям'і Варановічаў з вёскі Чараўкі.**

Так скончыўся конкурс на лепшую вясковую сядзібу, які аб'явілі летась. "Канкурсантаў" камісія ацэньвала па 10-ці крытэрыях.

У Варановічаў дыхтоўны дом, на панадворку – блізу дзесятка розных пабудоў, а ўпрыгожваюць уладанні некалькі змайстраваных з дрэва грыбочкаў. Тут і плот адметны: слупкі яго зроблены з каменьчыкаў.

Гаспадарацъ у доме **Генадзь і Сафія Варановічы.** Ён працуе інжынерам-энергетыкам водаканала, яна – інспектарам энерганагляду.

**– І колькі ж гэта часу трэба, каб сядзібу прызналі лепшай у раёне?**

– Чвэрць стагоддзя пайшло, – адказвае гаспадар. – Пакрысе нешта прыбудоўвалася, упрыгожвалася.

**– А для чаго так стараліся?**

– А чаму ў нас павінна быць горш, чым у іншых? Ды не гэта галоўнае. Прыемна, што можаш сваёй працай ганарыцца.

Гаспадыня кажа, што ўсё робіць для сябе самой, для душы. Але калі іншым вынік яе працы падабаецца, то таксама прыемна.

Дом Варановічаў стаіць ля самай шашы Мінск-Нарач. Людзі, што міма праязджаюць, бывае, прыпыняюцца, просяць ля іхных грыбкоў сфатаграфавацца. Часта кажуць: "Прыгожа ў вас, старайцеся і надалей". Хто кветак папросіць, бо багата іх у сезон тут расце.



Гаспадары лепшай сядзібы на Мядзельшчыне Генадзь і Сафія Варановічы.
Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Як пераможцам, уручылі Варановічам прэмію – 100 тысяч рублёў. Грошы выдаткавалі на ўпрыгожванне дома: купілі новую люстру ў гасціную.

Хаця, здаецца, і давядзена ў іх усё да ладу, але Варановічам хочацца яшчэ нешта зрабіць.

Гаспадару маніцца вялікую альтанку змайстраваць, ды асаблівую – каб абавязкова на курыных ножках была. Яшчэ жадае калекцыю грыбкоў павялічыць – падглядзеў дзесьці ля Краснага арыгінальныя грыбкі, у якіх шапачкі набок нахілены, хочацца і такія зрабіць. Словам, задум у Варановічаў яшчэ шмат – дачакацца не могуць, каб па-сапраўднаму вясна ў нас загаспадарыла, тады можна за работу брацца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПАМЯЦЬ

# Памёр Георгій Таразевіч

**21 сакавіка памёр наш зямляк, ураджэнец вёскі Слабада Мядзельскага раёна, дзяржаўны і палітычны дзеяч Георгій Таразевіч.**



Фота IREX/ProMedia.

Георгій Станіслававіч Таразевіч нарадзіўся 17 ліпеня 1937 года. У 1959 годзе ён скончыў Львоўскі політэхнічны інстытут, працаваў у Беларускім інстытуце чыгуначнага транспарту, начальнікам Беларускага картаграфічна-геадэзічнага прадпрыемства. Быў на партыйнай рабоце, узначальваў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, камісіі Вярхоўнага Савета СССР. Быў намеснікам міністра замежных спраў Беларусі, пасалом у Польшчы.

Георгій Таразевіч у апошняе дзесяцігоддзе жыцця прысвяціў сябе станаўленню сацыял-дэмакратыі ў краіне. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

У адным са сваіх інтэрв'ю, якое ён даў "Рэгіянальнай газеце" ў лістападзе 1995 года падчас удзелу ў выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі, Георгій Станіслававіч казаў чытачам:

— Мы і жывём дзеля таго, каб дзень заўтрашні быў лепшым. На жаль, забяспечыць сёння невялікі прагрэс у развіцці краіны практычна немагчыма, бо эканоміка Беларусі ў глыбокім крызісе. Аднак мы не маем аніякага права губляць надзеі на лепшае. Прычым важна разумець, што пабудаваць светлае жыццё зможам толькі ўласнымі рукамі. Калі нехта спадзяецца, што гэтым займуцца Захад альбо Масква, то ён моцна памыляецца і яго чакае горкае расчараванне.

Гэтыя словы нашага земляка застаюцца актуальнымі і сёння.

Развітацца з Георгіем Таразевічам у мінскі Дом літаратара прыйшлі яго калегі, але прадстаўнікоў цяперашніх уладаў амаль не было. Прысутнічалі толькі прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Міхаіл Мясніковіч і старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч.

Георгія Таразевіча пахавалі на Усходніх могілках у Мінску непадалёку ад магілы Генадзя Карпенкі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ВІЗІТ

# Успрымаць любую праблему

**18 сакавіка прыязджаў першы намеснік міністра ўнутраных спраў Барыс Тарлецкі.**

У Маладзечанскім ГРАУСе Б.Тарлецкі сустрэўся з кіраўнікамі Маладзечанскай, Валожынскай, Вілейскай, Мядзельскай міліцыі. Ён лічыць, што паездка не атрымалася. У райвыканкоме Б.Тарлецкі прыняў па асабістых пытаннях жыхароў Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Валожыншчыны. Першы намеснік міністра сказаў, што ўсе пытанні, з якімі да яго звярнуліся, маглі б вырашыць і мясцовыя службы.

"Я вельмі шмат наслухаўся, як працуюць участковыя міліцыянеры. Міліцэйскія падраздзяленні, — гаворыць Барыс Тарлецкі, — не поўнасцю выконваюць свае абавязкі. Людзі вымушаны звяртацца ў вышэйшыя органы". Сказаў і тое, што ўсе злачынствы раскрыць немагчыма. Хаця, тэарэтычна, гэта не так. Асабліва тычыцца крадзяжоў машын, асабістай маёмасці, ядахімікатаў, перасоўнай тэхнікі для пасяўной і ўборачнай кампаніі, правадоў, што здымаюць з лініі электраперадачы. Іх раскрыць можна. Інакш настане пасляваенная пара. Ён наракае, што мясцовыя службы не цалкам выкарыстоўваюць матэрыяльна-тэхнічную базу. Здараецца, на месца злачынства не толькі патрэбны спецыяліст не выязджае, а і ўвогуле ніхто не едзе. Карацей кажучы, варта ўсё рабіць сумленна і прафесійна.

— Канешне, каб былі ад дзейнасці міліцыі вынікі, трэба належныя ўмовы работы. У памяшканні, дзе месціцца Маладзечанская міліцыя, варта зрабіць рамонт. Але гэта не толькі праблема міністэрства, — гаворыць Б.Тарлецкі, — а і мясцовай улады. З боку міністэрства робіцца ўсё магчымае для паляпшэння работы міліцыі. Напрыклад, умацавалі падраздзяленне, якое займаецца прапаўшымі без вестак, наладзілі генную экспертызу. Добра працуе ваенна-ўрачэбная камісія, дзе супрацоўнікаў міліцыі можна праверыць на дэтэктары хлусні.

Што тычыцца злачынстваў у рэспубліцы, і ў нашым рэгіёне ў прыватнасці, то іх склад кардынальна не змяніўся. Прыкладна 40% учынілі п'яныя, столькі ж – ужо некалі судзімыя. Звыш 50% — тыя, хто нідзе не працуе і не вучыцца. Каля 13% — жанчыны. У сельскай мясцовасці і малых гарадах квапяцца на жыццё старых, інвалідаў, пенсіянераў. Усіх у турму не пасадзіш. Гэта і для дзяржавы складана. Іх жа трэба карміць, апранаць. Шкада, што ў нас няма магчымасці ў поўную меру выкарыстоўваць новыя формы пакарання: штрафы, арышты, заклады. На пытанне, ці трэба смяротнае пакаранне, Б.Тарлецкі адназначна адказаць не змог, але і не выключае яго. Накont жалю да злачынца мяркуе, што калі раскрываеш злачынства – гэта як паляванне. Калі ідзеш па слядах злачынца і спасцігаеш яго, адчуваеш задавальненне. Галоўнае для міліцэйскага работніка – гэта быць прыстойным. На жаль, абыякавасць у гэтай прафесіі ўласціва.

Таму самае важнае патрабаванне да таго, хто хоча прысвяціць сябе міліцыі, — успрымаць чужую праблему, як сваю.

**Ірына РАБУШКА.**

# Баляць суставы? Гэта не жарт!

Мой сусед - вадзіцель з вялікім стажам, ён увесь дзень за рулём, у напружанні і не вельмі зручнай позе. Таму, мусіць, часта скардзіцца на болі ў шыі, плячах, паясніцы. А вось хобі ў яго актыўнае - ён заядлы дачнік. Памахае матыкай два выхадныя над градамі - а потым стогне: і там баліць, і тут крууціць... Суседку таксама замучалі болі ў суставах - ад нагрузкі. Гаворыць, цэлы дзень за прылажкам, прысесці няма калі. Што рабіць са сваёю бядой - не ведае, бо з работы ж не пойдзеш.

Як лячыць усю сям'ю і сябе, ведае Алена Іванаўна, іх маці - дачку і зяця яна лечыць выключна націраннямі і свята верыць: няма лепшага лякарства ад усялякіх мышачных і суставных боляў.

Калі ёй мазі дапамагаюць змагацца з застарэлым рэўматызмам, дапамогуць і яе дзецям! Чым бы ні былі выкліканы болі ў суставах - траўмамі або абвастрэннямі хранічных захворванняў - яны, як правіла, суправаджаюцца запаленнем, ацёкамі і болем. Падчас сімптомы настолькі інтэнсіўныя, што пазбаўляюць нас не толькі радасцей жыцця, але нават укладваюць у пасцель. На жаль, гэта можа здарыцца з кожным: захворванне суставаў, па дадзеных Сусветнай аховы здароўя, выходзіць на 3-е месца ў статыстыцы хвароб; болі ў спіне той ці іншай моцы часам спасцігаюць кожнага з нас. Што тычыцца рознага роду траўмаў - яны таксама зусім нярэдкія, як сярод дзяцей, так і сярод дарослых.

Калі вы звернецеся да доктара, ён абавязкова назначыць лекі, якія знімаюць боль, ацёкі і тэмпературу, як правіла, так званыя нестэроідныя супрацьзапаленчыя сродкі. Доктар ведае, што яны дзейсныя, незаменныя ў якасці хуткай дапамогі; ведае ён, безумоўна, і пра сур'ёзныя пабочныя эфекты прэпаратаў групы і заўсёды ўзважвае: ці апраўдана рызыка?

Пацыентаў з захворваннямі суставаў, якія адначасова пакутуюць на хваробы нырак, печані, страўніка, лячыць напроста - ім гэтыя лекі іншы раз супрацьпаказаны, нават простага аспірын можа справакаваць абвастрэнне. Так што бабуля Алена Іванаўна ў чымсьці правільна сцвярджае: больш бяспечна і надзейна прымяняць мясцовыя сродкі. Боль яны знімуць, прынясуць палёгку, а дзеючыя рэчывы не паступяць у кроў у высокіх канцэнтрацыях. Для людзей пажылых, у якіх, на жаль, накоплена нямала хвароб, мясцовае прымяненне лекаў - заўсёды плюс.

Тут варта сказаць аб тым, чаго мая суседка Алена Іванаўна і іншыя дамашнія лекары, напэўна, не ведаюць. Але гэта добра ведаюць дактары: па-першае, мазі і сродкі для расцірання важна прымяняць па паказаннях, тады яны будуць эфектыўныя, бяспечныя і карысныя. Па-другое, некаторыя могуць аказаць нечаканае ўздзеянне на іншыя органы і сістэмы. Прымяненне некаторых можа выклікаць абвастрэнне іншых хранічных захворванняў альбо, напрыклад, павышэнне артэрыяльнага ціску. Таму нам даюць параду заўсёды ўважліва чытаць інструкцыю па прымяненні лекаў, у якой чорным па беламу напісаны ўсе паказанні і супрацьпаказанні.

Трэба ведаць, што мясцовыя сродкі ў выглядзе гелю пранікаюць праз скуру значна лепш, чым мазі і крэмы. Акрамя таго, гель лепш размяркоўваецца па паверхні, не пакідае на ёй тлустай плёнкі, не пэцкае адзенне. Варта ўлічыць, што, пакуль ёсць ацёк і запаленне ў вобласці сустава, разагравальныя мазі дактары прымяняць не рэкамендуюць.

І, мабыць, галоўная заўвага: на жаль, рэўматоідныя артрыты, артрозы, рэўматызм і, вядома, траўмы не лечацца толькі вонкавымі сродкамі і за адзін дзень. Калі назначаны фізіятэрапеўтычныя працэдуры, уколы - трэба іх выконваць і не кідаць на палове. Гэта адна з сур'ёзных памылак!

Так, абвастрэнні хваробы, болі і ацёкі вонкавыя сродкі могуць зняць, але хвароба, якая развівалася шмат гадоў, лечыцца доўга. Не трэба пустых надзей - пацыент павінны быць добра інфармаваны аб сваёй хваробе, аб уздзеянні лекаў, а яго чаканні - апраўданымі.

**Т. Машук.**

 



■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Безвыходнае становішча

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні рэгіянальны цэнтр занятасці насельніцтва (РЦЗН) правёў міні-кірмаш "Работа і жыллё-2003" для тых, хто жадае перасяліцца ў вёску.**

Сярэдні ўзрост жадаючых пераехаць — 34 гады. На 25 чалавек толькі 1 – з вышэйшай адукацыяй. Да пераезду іх схіліла немагчымасць знайсці работу, маленькая заработная плата, адсутнасць жылля ці жаданне памяняць яго або проста хочуць жыць у сельскай мясцовасці. Патрабаванні да жылля прад'яўлялі невялікія. Некаторыя адказалі, што ўвогуле не мае значэння, якім яно будзе. Заработную плату хацелі б атрымліваць ад 150 да 400 тысяч рублёў.



Маладзечанец Максім Цупа хоча працаваць даяром у калгасе.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

На кірмашы прапаноўвалі вакансіі па Беларусі. У асноўным патрабуюцца ў сельскую мясцовасць працаўнікі гаспадаркі, спецыялісты з інжынернай адукацыяй, ветдактары. Добрым дадаткам да многіх вакансій было жыллё. Гэта інтэрнаты, кватэры, сельскія дамы, катэджы. Аб рабоце, што ёсць у рэгіёне, расказалі дырэктар Смаргонскага РЦЗН **Тамара Рамановіч**, галоўны спецыяліст Вілейскага РЦЗН **Марына Стаўская** і супрацоўнікі мясцовага цэнтра занятасці. Розныя прычыны і лёсы прывялі людзей на кірмаш у пошуках работы. Шмат было з Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Валожыншчыны.

...У сям'і маладзечанкі **Алены Вайшнаровіч** хутка з'явіцца другое дзіця. Муж працуе на заводзе "Спадарожнік" і атрымлівае зарплату ў 180 тысяч рублёў. Жыве сям'я ў маленькім пакоі інтэрната ад гэтага завода. За яго плацяць 50 тысяч штомесяц. Грошай не хапае, перспектывы набыць жыллё няма.

...**Віталь Манькевіч** родам з Вілейшчыны. У Вілейскім ПТВ-200 вывучыўся на трактарыста. Цяпер жыве ў Маладзечне ў інтэрнаце. Нядаўна звольніўся са швейнай фабрыкі, бо мала плацілі. Хоча паехаць у вёску. Куды? Яму ўсё роўна. Віталь – сірата. Гаворыць, што абы жыллё ды зарплата былі.

...20-гадовы гараджанін **Максім Цупа** вырашыў падацца ў даяры ў калгас імя Дзяржынскага, што на Смаргоншчыне. У Маладзечне не змог уладкавацца на працу. Маўляў, вёску таксама нехта падымаць павінны.

Спецыялісты рэгіянальных цэнтраў занятасці гавораць, што людзі, якія задумалі пераехаць на вёску, пытаюцца пра адно і тое. Напрыклад, ці ёсць там магазін, дзіцячы сад, школа. Як выплачваюць заработную плату і яе памер. А таксама пра транспартную сувязь з вёскай. Начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы аграпрамысловага комплексу (АПК) "Маладзечанскі" **Людміла Кулеш**, якая запрашала на працу ў АПК, заўважыла, што раней на такія кірмашы прыходзіла больш людзей з вышэйшай адукацыяй. Цяпер у асноўным ідуць людзі, у якіх безвыходнае становішча. Кірмаш, што прайшоў летась, дапамог тром сем'ям. Яны пераехалі ў Маладзечанскі, Валожынскі і Мінскі раёны. Абралі пасады інжынера-цеплатэхніка, загадчыцы фермы, жывёлагадоўцы.

**Ірына РАБУШКА.**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Што будзе пасля вайны ў Іраку

**Другі тыдзень доўжыцца вайна заходняй кааліцыі супраць Ірака.**

У многіх краінах праходзяць дэманстрацыі пратэсту супраць агрэсіі – на здзіўленне самыя шматлікія з іх прайшлі ў краінах ЗША і Вялікабрытаніі.

У ваенных адносінах іракскі рэжым асуджаны – вайна ўзбраенняў розных пакаленняў. Самы галоўны слабы бок Ірака – сам яго лідэр Хусейн.

Беларусь, як Расія, Германія і Францыя, не падтрымала вайну кааліцыі. Узмоцнена ахова пасольстваў замежных краін. Дэманстрацый пратэсту ў краіне не было. Важней падумаць над тым, што будзе пасля вайны і якія яе вынікі адаб'юцца на жыцці ў нашай краіне.

## Новы рэжым

Пасля вайны, як калісьці ў разбураных Японіі і Германіі, амерыканцы пачнуць праводзіць дэмілітарызацыю і дэмакратызацыю краіны. Хаця будаваць дэмакратыю прыйдзецца самім іракцам – але пытанне дэмакратыі ў краіне Блізкага Усходу вельмі зыбкае, амаль безнадзейная справа. У большасці выпадкаў тая ці іншая краіна, якая апынецца пад часовым кантролем амерыканцаў, даволі хутка пераходзіць ад таталітарызму да дэмакратычнага рэжыму і дасягае высокага эканамічнага ўзроўню развіцця.

## Эканоміка

Сусветная эканоміка ў чаканні любых навін з палёў ваенных дзеянняў. Пад'ём чакаецца ў ЗША, і гэта ўжо дэманструюць амерыканскія асноўныя фінансавыя індэксы. Нагадаем, за паўтара месяца вайны 1991 года, калі праходзіла аперацыя "Буран у пустыні", курс акцый 500 буйнейшых кампаній у ЗША павялічыўся на 18%. Зацягванне ж канфлікту здольна ўцягнуць сусветную эканоміку ў доўгі спад і знізіць тэмпы эканамічнага росту на 2%. Знізяцца цэны на нафту – прыкладна на 15 долараў за барэль. Калі ж за час узброеных сутыкненняў пацерпяць нафтавыя свідравіны Ірака, то цана нафты будзе вышэй і дойдзе да 40 долараў. Эканоміка Расіі ад вайны не пацерпіць, бо прагноз развіцця эканомікі краіны на 2003 год пабудаваны з разліку сярэднегадавой цаны на нафту на ўзроўні 25 долараў за барэль. У выніку канфлікту цэны, калі і знізяцца да 20 долараў, то не ніжэй мяркуемых.

## Беларусь

Наша ж эканоміка ад пачатку амерыканскай агрэсіі пацерпіць больш, і на гэта маецца шмат, перш за ўсё, палітычных момантаў. Сферы Беларусі і Ірака за апошні час значна пашырыліся і ўмацаваліся. За апошнія гады не праходзіла і месяца, каб абодва бакі не абменьваліся візітамі высокапастаўленых афіцыйных дэлегацый. У прэсе ішло шырокае абмеркаванне пытання аб магчымасці даць іракскаму лідэру сховішча ў Беларусі. Аднак цяпер усе кантакты з Іракам будуць хутчэй за ўсё прыпынены. Гэта чакае і гандаль. Нагадаем, у 2002 годзе знешнегандлёвы абарот Беларусі і Ірака склаў 32 мільёны долараў. Беларусь пастаўляла ў Ірак аўтамабілі, дарожную і сельскагаспадарчую тэхніку, абсталяванне і будаўнічыя матэрыялы. Узгодненыя з ААН у рамках праграмы "Нафта у абмен на харчаванне" кантракты на гэты год у суме 300 мільёнаў долараў, магчыма, будуць замарожаныя. А пасля вызвалення Ірака гарантый няма ніякіх, што гэтыя кантракты будуць выконвацца, – іракскі рынак прыйдзецца заваёўваць зноў, і ўжо не палітычнымі, а рынкавымі метадамі. Гэта будзе вельмі складана, бо асноўны інвестар узнаўлення іракскай эканомікі — капіталісты Амерыкі, яны ўсе пазыкі і крэдыты будуць накіроўваць на закупку абсталявання і тэхналогій, хутчэй за ўсё, у сваіх айчынных, г.зн., амерыканскіх вытворцаў. У сувязі з гэтым гандлёвы абарот спадзе, нашы заводы не атрымаюць рэалізацыі прадукцыі і грошай.

Станоўчым для нашай эканомікі будзе зніжэнне курса еўра, бо асноўная колькасць тавараў з Захаду набываецца ў Германіі і Польшчы за еўра, а значыць, імпартуемыя тавары стануць для нас дзешавей.

## Нафта падзешавее

Самым галоўным плюсам для нашай эканомікі стане зніжэнне цэн на нафту. Калі гавораць, што гэта вайна – вайна за нафту, то часткова правільна, бо зніжэнне цаны на нафту на 5 долараў за барэль дае рост прыбытку амерыканскай эканомікі на 2%. Беларускай эканоміцы зніжэнне цаны таксама пойдзе на карысць – летась цана вырасла ў 3 разы, усе тавары сталі даражэйшымі ў сярэднім на 17-25%. Падзенне сусветных цэн на нафту прывядзе да росту рэнтабельнасці эканомікі з цяперашнімі 10% у сярэднім да 15%. Аднак не варта абнадзейвацца на хуткае зніжэнне цэн на бензін нашым канцэрнам – ніхто не будзе спяшацца прадаваць танны бензін, пакуль не перапрацуе закупленую па высокіх цэнах сыравіну. А магчымы нават і перабоі з пастаўкамі бензіну на заправачных станцыях, як звычайна бывае вясной і восенню. Аднак усё гэта толькі магчыма, і магчыма толькі па заканчэнні ваенных дзеянняў.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 20.03 руб. | 27.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1988,00 | 1994,00 |
| Еўра | 2115,53 | 2121,32 |
| Злоты | 487,88 | 490,83 |
| Літ | 612,21 | 614,46 |
| Расійскі рубель | 63,32 | 63,54 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1975/1998 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.03 | 26.03 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11890 | 11890 |
| Сасіскі, 1 кг | 3750 | 3900 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1500 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1250 | 1150 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 300 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 950 |
| Капуста, 1 кг | 720 | 840 |
| Морква, 1 кг | 950 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 2450 | 2200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1800 | 1700 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 600 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 1700 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1300 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 3800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |



 

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці хацелі б быць артыстам?



**Клара Быкоўская, білетны касір:**

— У дзяцінстве хацела. У хоры спявала, вершы чытала. Вельмі падабалася выступаць. Хаця адной страшна заставацца на сцэне.

Жыццё ўсё ж такі прывяло мяне ў тэатр. І цяпер, калі я прадаю білеты, адчуваю сябе артысткай.



**Максім Саўліч, студэнт:**

— Магчыма. Але мне ўжо позна. Увогуле ж, лепш не ў тэатры працаваць, а ў кіно здымацца. Гэта весялейшая справа. Вядомасць большая ды і прыбытак лепшы.



**Генадзь Самаль, выконваючы абавязкі начальніка аддзела па надзвычайных сітуацыях:**

— Каб з 18 гадоў пачаць усё з пачатку, дык можа і стаў бы артыстам. Я ўдзельнічаў у школьнай пастаноўцы "Барадзіно", у студэнцкім хоры спяваў.

У артыстаў кіно, канешне, вядомасць большая, але мне тэатр бліжэй.



**Кацярына Мазоль, школьніца:**

— Не. Мне гэтая прафесія не падабаецца. Трэба многа працаваць. Ды і не хачу, каб мяне ведала ў твар шмат людзей. Проста паглядзець спектакль у тэатр я не хаджу. А ў нашай Чысці яго ўвогуле няма.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

# Галоўная роля – мама

**МАЛАДЗЕЧНА. Учора актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра лялек "Батлейка" Таццяна Паўлючук атрымала грамату аблвыканкома за вялікі ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва. 10-ы сезон працуе актрыса ў тэатры.**



Актрыса Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» Таццяна Паўлючук.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Яшчэ з дзяцінства Таццяна адчувала сусвет па свойму, пасаблівамy. Гаворыць, бацькі з ёй намучыліся. Яна займалася музыкай, спявала, танцавала і... гуляла ў футбол. Гэткі хлопец у спадніцы. Без лялек, канешне, дзяўчынка абысціся не магла. Але рабіла яна іх сама: ляпіла з пластыліну, з яго ж – адзенне для іх, дэкарацыі, інтэр'ер. А потым пачыналася казка, кожны раз новая. З імі яна пражыла на Брэстчыне да 17 гадоў.

Пасля будучая актрыса паехала вучыцца ў Гродзенскае вучылішча культуры. Тут яна ўпершыню выйшла на вялікую сцэну. Таццяна зразумела, што правільна абрала свой шлях. Праз паўгода пасля заканчэння вучылішча яна атрымала ў Брэсцкім абласным тэатры лялек першыя кветкі за сваю работу. Актрыса заўважае, што ўвогуле раней больш кветак дарылі. Папрацаваўшы ў Брэсце, яна вырашыла паступаць на акцёра тэатра, драмы і кіно ў акадэмію мастацтваў, што ў Мінску. На 1-м туры Таццяне сказалі, што яна маленькага росту і прапанавалі паступаць на "лялькі". Яна адмовілася. Бо калі працавала з лялькамі, казала, не прыкіпела да іх. Таццяна зноў вярнулася ў Брэст. Папрацавала яшчэ год. Яна мела 15 роляў.

Але вырашыла ехаць у Мінск у акадэмію мастацтваў і паступаць на аддзяленне акцёра... лялек. Дырэктар тэатра за такое рашэнне выставіў Таццяну за дзверы. Гэта ўсё роўна не замінула ёй паступіць у акадэмію на курс да вядомага беларускага рэжысёра Аляксея Ляляўскага. Тады Таццяне быў 21 год. Шмат што прыйшлося мяняць дзяўчыне ў сваім характары. Аднакурснікі ж на 4-5 гадоў маладзейшыя за яе. Ды яна ўжо працавала ў прафесійным тэатры. Галоўнае – заставацца самой сабой. Напэўна, таму яна аддае перавагу актрысе на сцэне, а не ў жыцці. Падчас вучобы ў акадэміі навучылася працаваць дзень і ноч. Гаворыць, гэта 50% поспеху артыста. А галоўным адзеннем у студэнцкія гады былі трыко ды чэшкі з дзіркамі.

У акадэміі Таццяна ўдасканаліла сваё ўменне рабіць лялькі. Хацела ўжыцца ў ролі гандляркі, але не атрымалася. 5 лялек зрабіла, ды і тыя раздарыла. Але гаворыць, што дарыць, што прадаваць – усё адно шкада.

Хутка праляцела вучоба. Таццяна трапіла ў Маладзечна ў Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка". Кажуць, што акцёр жыве не сваім жыццём, а жыццём сваіх герояў. Таму ёсць меркаванне, што гэта прафесія — грахоўная. Таццяна гаворыць, што бывае ўсе падзеі адбываюцца так, як у спектаклі, толькі на самой справе. Можа, таму і ў прыкметы верыць. Напрыклад, ніколі не стрыжэ валасы, пакуль не закончыцца работа над новым спектаклем. Вельмі хочацца ёй зрабіць і свой спектакль аб сапраўдным тэатры. Напэўна, кажа яна, гэта настальгія. Шмат год у нашай "Батлейцы" ідзе рамонт, 7 гадоў няма пастаяннага галоўнага рэжысёра. Але нягледзячы на гэта, у тэатры ставяцца новыя спектаклі, творчы працэс прадаўжаецца. У Таццяны цяпер 17 роляў.

Падчас спектакляў усялякае бывае. Ну, ракам хадзіць – амаль аснова прафесіі. Часта лбом стукаецца. Аднойчы Таццяну ручкай ад парасона падчапілі. Нават у паветра пачала ўздымацца. Што і казаць, за шырмай сваё, нябачнае гледачу жыццё. Гаворыць, прафесію акцёра лялек не прамяняла б на акцёра драмы і кіно. Калі б артыстка з яе не атрымалася, то стала б батанікам. Лічыць, найлепшы варыянт для акцёраў – працаваць і ў драматычным, і ў лялечным тэатрах. Гэта б спрыяла прафесійнаму росту. Таццяне хочацца пасрабаваць сябе ў гістарычным жанры і сыграць ролю Жанны Д'Арк.

Цяпер галоўная яе роля – мама. Як у адным з апошніх спектакляў "Тыграня Петрык", так і дома. З мужам-артыстам яны гадуюць 3-гадовага Назара. Ён ужо гуляе ў артыста. Так што тэатр працягваецца і дома. Вядучай артысткай з'яўляецца Таццяна, як гаворыць яна сама.

Ірына РАБУШКА.

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Музыка нашай душы

**МАЛАДЗЕЧНА. Усё можа быць, напэўна, толькі ў тэатры.**

Учора ў Мінскім абласным драматычным тэатры (МАДТ) спявалі акцёры пад акампанемент народнага аркестра тэмбравых баянаў. Канцэрт "Музыка нашай душы" прыдумаў яшчэ паўтара года таму кіраўнік гэтага аркестра акцёр МАДТ і выкладчык дзіцячай музычнай школы **Аляксандр Пашкевіч**.



Аўтар канцэрта «Музыка нашай душы» акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра Аляксандр Пашкевіч.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Кажа, што ў тэатры працуюць унікальныя акцёры. Усе 20 – спяваюць. А дакладней, акцёры на сцэне будуць не спяваць, а выконваць песні. Бо песня для драматычнага акцёра – гэта маленькі спектакль, гісторыя. І ён павінен песню сыграць. Кожны сам выбіраў сабе песню. Усе яны, злегку забытыя ці не зусім, розныя, як і артысты. Атрымаўся рэпертуар ад "Аве-Марыі" да песні Астапа Бэндара. Гэта своеасаблівы экскурс у 30-70-я гады. Канцэрт "Музыка нашай душы" – настальгія па мінулых гадах. Гучалі ў выкананні артыстаў тэатра творы беларускіх кампазітараў.

Амаль усю музыку да канцэрта апрацаваў А. Пашкевіч: штодня і нават ноччу сядзеў за нотамі. Рэпеціравалі нямнога – 3 тыдні, і канцэрт атрымаўся. Аляксандр зазначыў, што шмат хто з артыстаў мог бы стаць спеваком. Яму ж больш падабаецца слухаць драматычных акцёраў, чым прафесійных спевакоў.

Грошай на падрыхтоўку канцэрта тэатр амаль не затраціць. Толькі святло, якое нагарыць за паўтары гадзіны канцэрта. 1 красавіка канцэрт "Музыка нашай душы" зноў можна паслухаць у Мінскім абласным драматычным тэатры. З такой праграмай і на гастролі можна адпраўляцца.

–Усё можа быць, – сказаў Аляксандр Пашкевіч.

Ірына РАБУШКА.

■ ПРАФЕСІЯ – МАСТАК-ВЫТВОРЦА

## Нестандартнае рашэнне

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыкладна 300 лялек зрабіў мастак-вытворца лялек Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" Аляксандр Занкевіч.**



Мастак Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» Аляксандр Занкевіч.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Некалі Аляксандр вывучыўся на зваршчыка. 12 гадоў таму і не здагадваўся, што гэтая спецыяльнасць дапаможа рабіць выдатныя лялькі. Гэтаму навучыўся ў сцэнах роднага тэатра ад старэйшых калег. Неадначы быў на стажыроўцы ў Мінску і Гродне. Першая лялька, якую зрабіў Аляксандр, — чорт.

— Падабаецца мне працаваць. Кожны дзень усё новае. Штодня трэба прымаць нестандартныя рашэнні, — гаворыць А.Занкевіч.

Здараецца, не хапае матэрыялаў для вытворчасці лялек. Трэба абыходзіцца неяк, замяняць чымсьці. Напрыклад, валасы зрабіў з магнітнай стужкі, што на бабіне яшчэ захавалася. Ці бараду – з нітак. Ён і сам шукае матэрыял для працы. Вось нядаўна камунальныя службы дрэвы абпілоўвалі. Дык і сабе прыдбаў патрэбнае. Увогуле ж, лялькі робяцца з дрэва, пенапласту, паралону, паперы. "Вельмі складана, — кажа Аляксандр, — зрабіць ляльку жывой. Каб вочы яе глядзелі ці плакалі, ручкі-ножкі рухаліся. Тут варта анатомію ведаць. Лялька – гэта амаль што чалавек. І шкілет ёсць". Толькі гуляць з імі нельга. А.Занкевіч патлумачыў, што лялькі, якія ён робіць, – не цацкі, а рабочы інструмент. Вельмі хочацца яму зрабіць ляльку-клоуна. Мяркуе, што рухі лялечнага клоуна найскладанейшыя: просты чалавек не можа зрабіць так, як клоун.

Ірына РАБУШКА.

# Іконы: мінулае і сучаснасць

**У фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея захоўваецца звыш 400 абразоў і прадметаў царкоўнага ўжытку.**

Пачалі паступаць да нас яны ў сярэдзіне 90 гадоў XX стагоддзя з Брэсцкай, Гродзенскай і Смаргонскай мытняў. Датуюцца яны ў асноўным канцом XIX-пачаткам XX ст. Спробы вывезці іх з Расіі на Захад былі спынены мытнікамі, потым абразы перадаюцца ў цэрквы, рашэннем Міністэрства культуры - у музеі. Спачатку ў часовае карыстанне, а калі не знаходзіцца гаспадар - на пастаянна, дзе і праходзяць навуковую апрацоўку: складаюцца навуковыя пашпарты, картачкі, заносяцца ў камп'ютэр, каб потым арганізоўваць выстаўкі, паказваць у час лекцый, каб ў фондах маглі папрацаваць даследчыкі.

Паводле падлікаў спецыялістаў, у кожным наступным стагоддзі захоўваецца толькі кожны чацверты створаны абраз. Так, напрыклад, з усіх створаных у Беларусі абразоў XVII стагоддзя зберагласся каля 2%. У фондах нашага музея, на жаль, абразоў беларускай школы іканапісу няма. Але тыя, якія трапілі да нас, мы павінны захаваць, данесці да нашчадкаў, таму што ўзрост іх таксама значны: некаторыя з іх перайшлі мяжу 3 стагоддзя.

Мастацтвазнаўцы лічаць, што знаёмства са старажытнымі творамі мастацтва, а наша размова пойдзе менавіта пра іконы, праходзіць некалькі этапаў: першыя непасрэдныя ўражанні, потым - устанаўленне гістарычных дат, храналагічных рамак, школ, тэхнікі выканання, а далей - паглыбленне ў яго сутнасць, у глыбокія пласты, усведамленне і асабістае асэнсаванне.

Сёння мы наблізімся да тэмы «Іканапіс», крыху пазнаёмімся з яго гісторыяй.

## Што такое ікона

Ікона (ад грэч. eikon - выява, вобраз) - жывапісныя або рэльефныя выявы Ісуса Хрыста, Маці Божай, святых, біблейскіх сюжэтаў, свят і г.д., з'яўляюцца прадметамі рэлігійнага пакланення ў праваслаўі, каталіцызме, ламаізме і будызме.

У перыяд фарміравання хрысціянскага мастацтва ў Візантыі гэтым словам абазначаліся ўвогуле выявы багоў, святых, анёлаў незалежна ад таго, была гэта выява скульптурай, манументальным або станкавым жывапісам і якой тэхнікай выканана.

Цяпер слова «ікона» прымяняецца пераважна да малельнай іконы, напісанай фарбамі, разной, мазаічнай і г.д. Хаця даследчыкі часта гавораць пра іконы і маюць на ўвазе царкоўны вобраз увогуле, напісаны ён фарбамі на дошцы, выкананы на сцяне фрэскай, мазаікай, скульптурны або адліты з металу, бо слова «абраз, вобраз» мае вельмі шырокі сэнс і адносіцца да ўсіх відаў выяў.

Па паданні, першай іконай быў кусок тканіны, на якім узнік (не адбіўся) лік Хрыста. Намаляваць збавіцеля «з натуры, гледзячы на яго», аказалася немагчымым, бо святло незямное сляпіла мастака так, што пэндзаль да палатна не паднесці. І толькі калі Хрыстос вырашаў пакінуць камусьці свой вобраз, то прыкладваў убрус (тканіну, ручнік) да твару і на ім узнікаў лік гасподзень.



Ікона Святога Мікалая Цудатворца, якая знаходзіцца ў фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея. Выкананая ў канцы XIX стагоддзя.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Легенд аб нерукатворных вобразах збавіцеля некалькі.

Першая пра Хрыста-лекара, які паслаў убрус са сваёй выявай правіцелю Эдэмскага царства Аўгару для вылечвання яго.

Другое паданне звязана са шляхам Хрыста на Галгофу, калі жанчына падала яму свой убрус выцерці пот, які заліваў твар.

Трэцяя – прыхільніца Хрыста Вероніка папрасіла мастака напісаць партрэт настаўніка.Той пісаў па памяці, але падабенства не было. Тады Ісус сказаў жанчыне, што прыйдзе да яе на вячэру, папрасіў вады памыцца, прыклаў да твару ўбрус і на ім узнік яго вобраз...

У далейшым на славянскіх землях Сын Божы перадаваўся ў абліччы ўладара Сусвету («Спас у сілах», «Хрыстос-Эмануіл», «Пантакратар Усядзержца», «Цар Цароў», «Вялікі Архірэй» і інш.). Хаця ў цэлым іканаграфія выяў Хрыста на візантыйскай і рускай глебе вылучаецца строгім адпавяданнем канону, які не дапускае вялікай разнастайнасці ў трактоўцы гэтага адказнага вобразу.

Паданні сведчаць, што першы абраз Маці Божай быў напісаны евангелістам Лукой яшчэ пры жыцці Багародзіцы, нібы Марыя агледзела напісаны Лукой абраз і благаславіла яго.

## Віды ікон

Абразы Маці Божай адрозніваюцца ад абразоў святых і анёлаў як разнастайнасцю іканаграфічных тыпаў, так і іх колькасцю і інтэнсіўнасцю пакланення ім. Даследчыкі вылучаюць 7 асноўных іканаграфічных тыпаў багародзічных ікон: «Адзігітрыя» («Пуцевадзіцельніца»), «Замілаванне», «Млекакарміцельніца», «Узыгранне», «Аранта», «Знаменне», «Перыўлепта» .

Яны дапамагаюць арыентавацца ў шматлікай колькасці выяў Маці Божай (толькі ў Рускай праваслаўнай царкве іх больш за 700, 260 праславіліся цудамі).

У першапачатковым хрысціянстве культа ікон не было (гэта лічылася ідалапаклонствам), ён зарадзіўся ў II стагоддзі н.э. і расцвіў у IV стагоддзі. Жывапісныя вобразы святых у выглядзе людзей спачатку выконвалі ў тэхніцы фрэскі і мазаікі на сценах хрысціянскіх храмаў Рымскай імперыі. Пасля яе распаду ўзнікла шмат цэнтраў пісання абразоў на тэрыторыі Візантыйскай імперыі.

Ішлі стагоддзі, іконы станавіліся абавязковым і неад'емным атрыбутам храма, а іканапіс - асобым чалавечым прызваннем. Шэраг выяў Хрыста, Маці Божай, апосталаў, евангельскіх падзей стаў кананічным. Асобы строй іконы, закон яе святла, колеру, перспектывы паўтараўся са стагоддзя ў стагоддзе. Але сумненні - ці можа ікона быць рукатворнай, нават калі майстар спадоблены на гэта вышэйшымі сіламі, - заставаліся.

У X стагоддзі адзіная хрысціянская рэлігія (яшчэ не падзеленая на каталіцкае і праваслаўнае веравызнанні - падзел адбыўся ў 1054 г. пад уплывам палітычных фактараў) разам з візантыйскімі абразамі, мазаікамі і фрэскамі распаўсюджвалася і сярод усходніх славян.

## Іканапіс Беларусі

Асобае месца ў культуры народаў славянскіх краін належыць іканапісу Беларусі. У ім традыцыі візантыйскага і старажытнарускага мастацтва злучаны са стылістычнымі асаблівасцямі заходнееўрапейскага мастацтва - рэнесанса, барока, класіцызму. Размешчаная на стыку лацінскага Захаду і праваслаўнага Усходу, уваходзячы ў склад ВКЛ (XIV-XVI стагоддзі), Рэчы Паспалітай (XVI-XVIII стагоддзі), што і знайшло адбітак у асаблівасцях беларускай іканапіснай школы( даследчыкі надаюць ей рамкі XV-XVIII стагоддзяў).

## Праца іканапісца

Найбольш старажытныя абразы, дайшоўшыя да нас, адносяцца да VI стагоддзя. Самыя раннія з іх ў Візантыі былі выкананы ў тэхніцы «энкаустыкі» (гарачы спосаб - разагрэтыя каляровыя васковыя фарбы наносіліся на паверхню, халодны спосаб - васковыя фарбы на шкіпінары). Пазней абразы пісаліся на металічных пласцінах, на дошках або на палатне.

На Русі драўляная ікона як найлепш падыходзіла для ўбранства драўляных цэркваў. Тут яна ў XIII-XVI стагоддзях атрымала выключную мастацкую яркасць і своеасаблівасць. У параўнанні з візантыйскім мастацтвам стала больш дэмакратычнай, прабівалася народная струя, увасабляемыя ідэалы страцілі візантыйскую суровасць, строгасць.

У тэхніку вырабу ікон Русь унесла свае карэктывы. Дошкі для ікон часцей выраблялiся з ліпы і сасны. Калі ікона была вялікага памеру, то з асобных дошак збіваўся шчыт, які ўмацоўваўся з адваротнага боку або ў тарцах шпонкамі, каб дошкі не трэскаліся разам з фарбавым слоям, на іх наклейвалі льняную тканіну (т.з. «павалаку», кусок палатна, вымачаны ў вадкім клеі). Дошку (або павалаку) пакрывалі «ляўкасам» (грунт з алебастру або іелу, разведзены на рыбіным клеі). Пасля высыхання і разгладжвання наносілі або пераводзілі на яго малюнак: напрыклад, накладвалі ліст паперы з малюнкам, па контуры прабіты рады дзірачак і праз іх набівалі парашок якой-небудзь фарбы. Намечаныя лініі праводзілі карандашом, пэндзлем з вадкай тушшу.

Для прыгатавання фарбаў прымянялі ў асноўным прыродныя мінеральныя пігменты. У якасці звязваючага матэрыялу служыў жаўток курынага яйца. Такая тэхніка называлася «яечнай тэмперай». Разводзілі фарбы ў гаршчочках, чарапках, ракавінках, зрэдчасу на пазногцях, якія замянялі палітру. Фарбы на іконе накладваліся ў пэўным парадку.

Спачатку пісалі «далічнае», т.е. рызы, палаты, дрэвы, скалы, потым часці цела і лікі. Лікі спачатку загрунтоўвалі цёмнай фарбай (санкірам), потым ажыўлялі больш светлай і, урэшце, жаўтавата-белымі блікамі ў выступаючых частках.

Фон часта пакрываўся золатам, фігуры на ім быццам растайвалі, фон мільгацеў, то выступаў, то адступаў, быццам свяціўся з сярэдзіны. Золата ў сімволіцы хрысціянства азначала божае святло, «асісты»- блікі і палосы на адзенні, «мандорла»- ззянне ў выглядзе авала вакол фігур Маці Божай і Ісуса Хрыста.

## Сімвалы

Важным выразным сродкам ў рабоце іканапісцаў служыў колер - большасць з іх мела сімвалічны сэнс:

**Чырвоны** - колер агню, крыві пакутнікаў, царскага адзення.

**Зялёны** - сімвал юнацтва, квецені, гармоніі духоўнага спакою хрысціяніна.

**Жоўты** замяняў золата.

**Сіні** сімвалізаваў таямнічую недасягальнасць нябесных сфер.

**Белы** ўтрымліваў усе колеры вясёлкі і як бог агортваў увесь свет.

Для роспісу цэркваў выкарыстоўвалі вадзяныя фарбы, якімі пісалі па сырой тынкоўцы (тэхніка фрэскі). Прымянялі таксама мазаіку - кубікі каляровага шкла(смальты), з якіх выкладвалі асобныя выявы і цэлыя сцэны.

Перш чым прыступіць да напісання ікон, мастак павінен быў духоўна і фізічна рыхтавацца да гэтага дзеяння, пасціцца і маліцца. «Жывапісцу да твару быць ціхмяным, пакорлівым, поўным глыбокай павагі, не пустаслову, не смяхотнаму, не сварліваму, не зайздроснаму, не п'яніцу, не грабежніку, не забойцу.

Асабліва захоўваць чысціню душэўную і цялесную з усялякай асцярогай. І патрэбна ім часта прыходзіць да айцоў духоўных і ва ўсім з імі раіцца, і па іх павучанні і навуцы жыць, у пасце, малітве і стрыманасці... Таксама і знаці, і простым людзям тых жывапісцаў ва ўсім ушаноўваць за тыя сумленныя іконныя выявы. Ды і аб тым святарам вялікую апеку мець, кожнаму ў сваёй вобласці, каб добрыя іконнікі і іх вучні пісалі са старажытных абразоў, а ад самамыслення і сваімі домысламі бажаство не апісвалі...». Няшмат прозвішчаў іканапісцаў захавалася. Да XVII стагоддзя яны амаль не падпісвалі свае работы, лічылася, што яго рукой водзіць бог. Таму так распаўсюджаны былі легенды аб тым, як іконы замест мастака пісаў анёл або нябачная сіла ўдакладніла іх.

Паступова тэолагі распрацавалі поўную і ўсеабдымную сістэму правілаў і канонаў, згодна з якімі мастакі павінны былі падаваць падзеі і выявы святых, набор дэталяў, які дазваляў адрозніць іх адзін ад аднаго. Так у Іаана Златавуста барада кароткая і светлая, Васілія Вялікага - доўгая і цёмная і г.д. Паступова ў хрысціянскім мастацтве склаўся іканаграфічны канон - пастаянна перамалёўваемыя адна з другой выявы, якія з першага погляду дазвалялі пазнаць, што за святы або якая падзея адлюстравана на абразе. Утварылася такое паняцце, як «іканаграфія» ( ад грэч.»eikon»-вобраз, « grapho»-пішу, малюю).

Кожная частка абраза атрымала сваю назву: сярэднік, лузга, палі і г.д. Пры гэтым асаблівасці мастацкіх школ пэўны час захоўваліся. Майстры іканапісу на Беларусі аздаблялі ўзорамі німбы і адзенне святых, ператваралі фон абразоў у разьбянoе залочанае поле. Акрамя таго, палі абраза часта абрамляліся драўлянымі накладкамі з «камянямі». Выявы размяшчаліся ў рамы і г.д.

Нашых продкаў іконы суправаджалі заўжды - ад нараджэння да адыходу, і дома, і ў падарожжах, на вайне, ва ўсіх жыццёвых стасунках. І адносіны да іх былі пэўныя: перад абразом нельга было стаяць у шапцы або класці ногі на лаўку, калі глядзіш пры гэтым на ікону, нельга было спрачацца, адсюль і пагаворка: «Спрачаюцца, хоць святых выносць».

Зараз іконы не толькі малельны вобраз для веруючых, але і цікавы матэрыял для даследчыкаў: мастацтвазнаўцаў і гісторыкаў.

**Лілія НАГАЙЦАВА,**
**загадчыца аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея.**

# Станаўленне народнай асветы

Гісторыя народнай асветы Вілейскага раёна будзе няпоўнай, калі не разглядаць гісторыю стварэння першага павятовага вучылішча ў Паставах, якія, згодна з адміністрацыйным дзяленнем, раней адносіліся да Вілейскага павета.

У другой палове XVIII стагоддзя ў Рэчы Паспалітай перадавыя колы грамадства прыйшлі да разумення неабходнасці зменаў ў сістэме адукацыі і асветы. У выніку была створана Адукацыйная камісія – арганізацыя па кіраванні народнай асветай у межах Рэчы Паспалітай. У адпаведнасці з пастановай Сейма камісію заснавалі ў 1773 годзе.



У гэтым будынку ў вёсцы Латыгаль у XIX стагоддзі мясцілася спачатку царкоўна-прыходская школа, потым – агульнаадукацыйная. Пасля вайны ў вёсцы пабудавалі новую школу, а ў гэтым будынку жывуць 3 сям'і.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Першая школа

Па ходу сваёй дзейнасці камісія стварае рад новых вучэбных установ на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Адной з іх была малая школа, адкрытая ў Вілейскім павеце ў Паставах 10 кастрычніка 1773 года. Школа адносілася да разраду павятовага вучылішча. Настаўнікі атрымлівалі жалаванне за кошт сродкаў адукацыйнага фундуша. На той час у школе працавала 5 настаўнікаў і навучалася грамаце 95 вучняў. Дзяўчат у школе не было – толькі хлопчыкі. Прарэктарам школы быў Іосіф Цымерман, выкладчыкам матэматыкі – Францішак Прыалгоўскі, выкладчыкам гісторыі – Стэфан Міхайлоўскі, геаграфіі – Анатоль Пляхневіч, нямецкай мовы – Андрэй Цымерман. Школьная бібліятэка налічвала 42 кнігі. У пералік матэрыяльнага забеспячэння школы таксама ўваходзілі "столік геаметрычны з драўлянаю дыяптрыяй, цыркуль, лінея і шар". Колькасць настаўнікаў і вучняў захоўвалася нязменнай на працягу больш за 16 год.

У першым, або ніжнім класе навучалі "літарам і складам, чытаць буквар, правілам для вучняў, скарочанаму катэхізісу, свяшчэннай гісторыі і пачатковаму пісьму".

У другім класе "працягваюць чыстапісанне і свяшчэнную гісторыю, пачынаюць маляваць, чытаць падрабязны катэхізіс без доказу са Свяшчэннага Пісання, кнігу аб пасадах чалавека і грамадзяніна, вучыцца першай частцы арыфметыкі і граматычным правілам...".

Асаблівасцю адкрытых на той час вучылішчаў было тое, што яны былі даступныя ўсім слаям гарадскога насельніцтва. Не існавала якіх-небудзь абмежаванняў сацыяльнага, узроставага ці рэлігійнага характару. Дзяўчынкам было дадзена права наведваць школу нароўні з хлопчыкамі.

## Закрыццё школы ў Паставах

Школа ў Паставах была закрыта пастановай Мінскага "Приказа Общественного Призрения" ад 27 жніўня 1798 года ў сувязі з тым, што "Паставы ляжаць на Літоўскай граніцы, і вучні там большай часткай паходзяць з дваран Літоўскай губерні, якія могуць перайсці для заканчэння навук у Вільню. Але школу ў Паставах не ліквідавалі, яна працягвала сваё існаванне, змяніўшы толькі свой статус. Яе перасталі называць павятовай, але ў ёй, як і раней, працавала 5 настаўнікаў і навучалася 95 вучняў.

24 студзеня 1803 г. цар Аляксандр I заснаваў Віленскую вучэбную акругу. У той жа час князь Адам Чартарыйскі быў прызначаны апекуном ці куратарам акругі. Гэтай жа датай былі прыняты "Папярэднія правілы народнай асветы", на падставе якіх былі вызначаны 4 разрады вучылішчаў: вучылішчы прыходскія, павятовыя, гімназіі, універсітэты. На апошніх ускладалася загадванне ўсімі вучылішчамі адпаведнай вучэбнай акругі, прычым як ніжэйшымі, так і сярэднімі.

Згодна з арт. № 83 прынятага ў 1804 годзе "Статута", у кожным губернскім і павятовым горадзе "павінна быць па крайняй меры адно павятовае вучылішча, у вялікіх жа гарадах па два такія вучылішчы і больш, калі будзе магчымасць для іх утрымання".

Візіцёры Віленскага універсітэта пасля правядзення першай рэвізіі атрымліваюць дадатковыя інструкцыі. І тым, хто накіроўваўся ў Мінскую губерню, указвалі: "Паколькі ў Мінскай губерні адсутнічаюць вучылішчы ў чатырох паветах – Вілейскім, Барысаўскім, Ігуменскім і Рэчыцкім, то універсітэт лічыць неабходным для Вілейскага павета ўзнавіць вучылішча ў Паставах...". Для прыняцця рашэння аб размяшчэнні вучылішча візіцёры павінны былі выпрацаваць свае прапановы і ўнесці іх на разгляд універсітэта.

## Школы ў Ілы і Вілейцы

Акрамя павятовага вучылішча, згодна з дакументам, ёсць даныя аб наяўнасці яўрэйскай школы ў мястэчку Ілья ў пачатку XIX стагоддзя: "Дом школы жыдоўскай".

У 1803 годзе ў Вілейцы адкрываецца аднакласнае прыходскае вучылішча. Вядома, што размяшчалася яно ў наёмным доме. Сродкі на яго ўтрыманне адпускаліся з дзяржаўнага казначэйства. Яно, як і іншыя прыходскія вучылішчы, з'яўлялася першай прыступкай у навучанні. Пасля яго заканчэння вучні маглі працягваць навучанне ў павятовых вучылішчах. Падобныя вучылішчы адкрываліся як у павятовых гарадах, так і на тэрыторыі самога павета пры кожным царкоўным прыходзе, або, калі прыходы былі малыя, то адна школа – на два прыходы. Адкрываць іх можна было столькі, "колькі магчыма было завесці іх". У іх прымалі "рознага дастатку дзяцей без разбору полу і ўзросту." У той час у падобных вучылішчах павінны былі навучаць "чытанню і пісьму; закону Божаму або катэхізісу, пачатковым правілам маралі, асновам арыфметыкі, простаму і дакладнаму веданню прадметаў, якія мелі адносіны да земляробства і рамёстваў". Навучанне ў іх працягвалася ад заканчэння палявых работ да іх пачатку ў наступным годзе.

Так пачынала будавацца новая сістэма адукацыі на аснове строгай цэнтралізацыі: міністэрства, вучэбныя акругі, дырэкцыя губернскіх гімназій, наглядчыкі павятовых вучылішчаў, настаўнікі прыходскіх вучылішчаў. У якой меры вучэбныя ўстановы таго часу ўвогуле задавальнялі патрабаванні рускага ўрада, сведчыць наступная справаздача беларускага генерал-губернатара князя Хаванскага, які патрабаваў аддзяліць беларускія губерні ад Віленскай вучэбнай акругі ў 1824-1825 годзе:

"На Беларусі ад часоў далучэння яе да Расійскай імперыі выхаванне юнацтва знаходзіцца ў руках каталіцкага і уніяцкага духавенства. Адукацыя праводзілася ў школах, заснаваных пры кляштарах Езуіцкіх, Піарскіх і іншых манашаскіх ордэнаў. Школы гэтыя існуюць і да гэтага часу, акрамя езуіцкіх. У іх юнацтва навучаецца па метадах старажытных аўтараў, навукі выкладаюцца на польскай або лацінскай мовах. Славеснасць заключаецца ў навучанні польскай мове, лацінскай і некаторым замежным, а расійская застаецца "в совершенном небрежении". Сістэма навучання, якая існуе зараз, заключаецца ў тым, каб пасяліць ў вучнях дух чыстага паланізму, у чым яны і дасягнулі сваёй мэты. Ад гэтай сістэмы выхавання ідзе яшчэ і тое самае галоўнае зло, што карэнныя беларусы, не толькі сталага веку, але нават і маладыя, нягледзячы на даўнасць далучэння краю, "питают какое-то равнодушие и даже неприязнь к коренным русским и ко всему русскому".

## Пасля застою

Пасля сарака год застою ў адукацыі на тэрыторыі Вілейскага павета зноў пачынаюць адкрывацца школы. Вілейскае яўрэйскае вучылішча заснавана ў 1854 годзе. У 1885 годзе ў Рабуне адкрываецца Рабуньскае народнае вучылішча.

Апякун Віленскай вучэбнай акругі князь Аляксандр Прохаравіч Шырынскі-Шыхматаў першым звярнуў увагу Міністэрства Народнай Асветы на адукацыю шматмільённага вясковага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю. Ён сказаў, што ў Віленскай вучэбнай акрузе больш гімназій і прагімназій, чым ў іншых вучэбных акругах.

У аднакласных вучылішчах навучэнцы дзяліліся адпаведна ўзроўню сваіх ведаў на тры паслядоўныя аддзяленні і заставаліся ў кожным аддзяленні на два гады. У двухкласных вучылішчах курс першага класа працягваўся чатыры гады, і вучні ў ім падзяляліся на два паслядоўныя аддзяленні. Курс другога класа працягваўся два гады. У вучылішчах трохкласных курс кожнага класа быў двухгадовы. У чатырохкласных вучылішчах курс першых двух класаў працягваўся па два гады ў кожным класе. А курсы 3-га і 4-га класаў – па адным годзе ў класе.

Ужо з 1860 года ў Вілейскім павеце пачынаецца масавае адкрыццё народных вучылішчаў. Адкрываюцца ў 1862 годзе Куранецкае, Даўгінаўскае, Ільянскае; у 1864 годзе – Іжаскае, Латыгальскае, Вязыньскае народныя вучылішчы. Былое Вілейскае прыходскае вучылішча пераймяноўваюць у народнае вучылішча.

Такім чынам, да 1864 года сельскіх вучылішчаў, адкрытых Міністэрствам Народнай Асветы або пераўтвораных з былых царкоўных, у Вілейскім павеце было 23. У параўнанні з другімі паветамі Віленскай губерні гэта была самая вялікая колькасць. Так, у Віленскім павеце было – 4, Трокскім – 7, Свянцянскім – 6, Дзісненскім – 19, Ашмянскім – 16, Лідскім – 9 вучылішчаў.

## Новы парадак

Пасля іх адкрыцця перад Міністэрствам Народнай Асветы паўстала наступная задача – прывядзенне гэтых школ і працэсу навучання ў іх школьнікаў у строгую адпаведнасць з распрацаванымі рэгламентуючымі дакументамі. Некаторыя з вучылішчаў наведваліся па 2, а то і 3 разы. У Вілейскім павеце інспектавалі ў чэрвені-жніўні 1864 года інспектар Садокаў, пасля інспектар Снітко. Апошнім быў старшы інспектар Вілейскай прагімназіі (да прызначэння яго інспектарам Мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў) Дзям'янаў.

У сярэднім у кожным вучылішчы павінна было быць 40 вучняў. Усяго ў Вілейскім павеце на той час навучалася 762 хлопчыкі і 47 дзяўчат.

Як толькі Міністэрствам Народнай Асветы сталі засноўвацца вучылішчы, у народных масах пачалі культывавацца чуткі пра тое, што дзяцей сялян будуць вучыць рускай грамаце дзеля таго, каб пасля высылаць іх на Амур, у іншыя аддаленыя месцы Расійскай імперыі, а дзяўчат – у Маскву на фабрыкі. Каталіцкія святары пачалі пагражаць пазбаўленнем прычасці ўсіх тых бацькоў рымска-каталіцкага веравызнання, якія аддадуць дзяцей у школу, заснаваную вучэбным ведамствам. Многія сусветныя пасрэднікі накіроўвалі ў сельскія школы польскіх настаўнікаў і самавольна закрывалі вучылішча, дзе выкладалася руская мова. З нястомным запалам і патрыятызмам памешчыкі на адно ўрадавае вучылішча адкрывалі па некалькі школ на сваім утрыманні, у якіх прадметы выкладаліся выключна на польскай мове для дзяцей праваслаўнага веравызнання. Усе школы напаўняліся велізарнай колькасцю друкаваных польскіх буквароў, катэхізісаў і іншых брашур, надрукаваных па-польску і на мясцовай беларускай мове – польскімі літарамі.

23 снежня 1862 года генерал-губернатар накіраваў губернатарам цыркулярную прапанову (№№ 914-917), у якой

**Намаганнямі духавенства да 1 красавіка 1863 года былі створаны па Вілейскім павеце наступныя вучылішчы:**

| Назва прыходаў | Колькасць вучняў | Кім адкрыты |
|---|---|---|
| Сяло Іжа | 26 | Св. Андрушкевіч |
| Сяло Касута | 9 | Прот. Баліцк |
| Сяло Рабунь | 5 | Св. Сцяпура |
| Мястэчка Ілья | 23 | Св. Яленскі |
| Вёска Лукавец | 50 | Св. Янушкевіч |
| Сяло Латыгаль | 14 | Св. Савіч |

# ў Вілейскім павеце

прапанаваў ім абавязаць земскіх спраўнікаў закрыць усе школы, адкрытыя без дазволу вучылішчнага начальства і не дапускаць адкрыцця іх у будучым. 9 студзеня 1863 года па дадзенаму пытанню выйшаў пацвярджальны цыркуляр. Але выконваўся ён толькі часткова. Калі ў адным месцы закрывалася недазволеная вучэбным начальствам школа, то ў другім месцы яна адкрывалася без усялякай перасцярогі, бо тыя, хто адкрываў недазволеную школу, ніякім спагнанням не падлягалі. Цяпер цяжка вызначыць хаця б прыблізную колькасць адкрытых такім чынам школ у Вілейскім павеце.

Згодна з інструкцыяй, настаўнікі народных вучылішчаў павінны былі пачынаць вучобу з 1 верасня і заканчваць у канцы красавіка. На самой справе пачатак вучэбнага года амаль заўсёды супадаў з заканчэннем палявых работ, у сярэдзіне кастрычніка, а спыняўся пачаткам гэтых работ – у сярэдзіне красавіка. Аднак вучоба ішла бесперапынку, за выключэннем святочных дзён, штодзённа, не менш 5 гадзін. У многіх вучылішчах работа ішла ад світання да прыцемак, з невялікімі прамежкамі, неабходнымі для абеду і адпачынку. Некаторыя асабліва старанныя і аддадзеныя сваёй справе настаўнікі займаліся і вечарамі з тымі вучнямі з дальніх вёсак, якія заставаліся начаваць у вучылішчы. Навучалі ж вучняў пяці прадметам: закону Божаму, рускаму і славянскаму чытанню, пісьму, чатыром арыфметычным дзеянням і царкоўным спевам. Пра ўзровень навучання таго часу можна меркаваць па справаздачах інспектараў. Вось, напрыклад, як яны дакладвалі аб выніках сваёй праверкі: "Увогуле поспехі па рускаму чытанню вельмі здавальняючыя. Тыя, хто прабыў у школе толькі некалькі тыдняў, ямчэ асільваюць азбуку; большасць чытае з большым або меншым разуменнем тэкста; паколькі чытанне суправаджаецца тлумачэннем, многія вучні могуць пераказаць сваімі словамі прачытаны лёгкі артыкул. У самым пачатку пры тлумачэнні матэрыялу новым вучням настаўнік выкарыстоўвае простанародную мясцовую мову, але надоўга такая дапамога аказваецца неабходнаю...".

## Русіфікацыя

Школа Паўночна-Заходняга краю да 1864 года па складу вучняў і выкладчыкаў, па падручніках і накірунку выхавання ў асноўным была польскай. Таму адным з першых крокаў па распалячванню школы, прынятых І.П. Карнілавым і М.М. Мураўёвым, стала замена выкладчыкаў польскага паходжання рускімі ўраджэнцамі. Дзеля гэтага было палепшана матэрыяльнае становішча рускіх настаўнікаў. Карнілаў звяртаецца з лістамі да ўплывовых асоб, просіць іх пасадзейнічаць надзейнымі настаўнікамі, велікарускімі ўраджэнцамі. Каб стварыць кантынгент настаўнікаў для народных школ з мясцовага асяроддзя, Карнілаў у 1864 годзе заснаваў у Маладзечне першую ў Расіі настаўніцкую семінарыю, якая ў хуткім часе паказала выдатныя вынікі. Пры намаганнях Карнілава і Мураўёва мовай выкладання афіцыйна была прызнана руская. Выдаленнем польскай мовы і



Аўтар матэрыялу краязнавец Стэфан Плавінскі непасрэдна звязаны з адукацыяй – ён працаваў у Латыгальскай школе. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

настаўнікаў палякаў начальнік краю ўказаў новы накірунак школе Паўночна-Заходняга краю: у ёй з гэтага часу павінны панаваць рускі дух і руская мова.

Працэс стварэння народных вучылішчаў па Вілейскім павеце пасля пяцігадовага перапынку працягваўся: у 1870 годзе адкрываецца Слабодскае, Нароцкае, а ў 1871 годзе – Хаценчыцкае народныя вучылішчы.

25 мая 1874 г. імператарам зацверджана новае "Палажэнне аб пачатковых народных вучылішчах", у якім было ўказана, што "пачатковыя вучылішчы ставяць за мэту сцвярджаць у народзе рэлігійныя і маральныя паняцці і распаўсюджваць першапачатковыя карысныя веды і што прадметам вучэбнага курса народных вучылішчаў павінны быць закон Божы, чытанне па кнігах грамадзянскага і царкоўнага друку, пісьмо, першыя чатыры дзеянні арыфметыкі і царкоўныя спевы".

У 1875 г. была выдадзена асобая інструкцыя Міністэрства Народнай Асветы для двухкласных і аднакласных сельскіх вучылішчаў, якая вызначала мэту міністэрскіх вучылішчаў пры навучанні сельскага насельніцтва.

Царкоўна-прыходскія школы, якія ўяўлялі сабой самы старадаўні тып пачатковай школы, у 80-х гадах уступілі ў новую фазу развіцця. 13 чэрвеня 1884 г. зацверджаны "Правілы аб царкоўна-прыходскіх школах". Пасля зацвярджэння "Правіл..." у Вілейскім павеце адкрываюцца аднакласныя царкоўна-прыходскія школы: 1888 г. – у вёсцы Варонічы, 1893 г. – у вёсцы Каралеўцы, 1896 г. – у сяле Касута, 1897 г. – у мястэчках Куранец, Ілья, 1899 г. – у горадзе Вілейка, 1901 – у мястэчку Вязынь, у сяле Іжа.

Да канца XIX стагоддзя ў Вілейскім павеце было 205 школ граматы, і колькасць іх бесперапынна расла. І зноў Вілейскі павет быў лідэрам па іх колькасці. Школы граматы часам былі пазбаўлены самага неабходнага і гэтым часта выклікалі крытыку з боку многіх педагогаў. А ў народзе іх папростаму называлі "папоўскімі". Большасць настаўнікаў мела стаж работы менш 3-х год. І хоць настаўнікі і настаўніцы царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы ў асноўным ставіліся да сваёй работы адказна, але адсутнасць вопыту і мінімальных навыкаў выкладання звярталі на сябе ўвагу з боку правяраючых.. У чэрвені 1902 года на з'ездзе назіральнікаў было вырашана пасылаць малавопытных настаўнікаў перад пачаткам заняткаў у лепшыя школы павета для азнаямлення з практычнай работай лепшых выкладчыкаў. З гэтай жа мэтай для настаўнікаў школ граматы былі арганізаваны педагагічныя курсы. У Вілейскім павеце яны праводзіліся ў мястэчку Ілья.

## «Дарослыя» школы

Было б няправільным лічыць, што адукацыя распаўсюджвалася толькі на дзяцей. 21 студзеня 1901 года ў Вілейскім народным доме "попечительства о народной трезвости" адбылося адкрыццё школы па навучанні грамаце непісьменнага дарослага насельніцтва Вілейкі. Камітэт пастанавіў выдзеліць для гэтай школы бясплатнае памяшканне, ацяпленне, асвятленне і прыслугу, а таксама выдаў аднаразова са сродкаў камітэта 50 рублёў на вучэбныя дапаможнікі. Вілейскае гарадское ўпраўленне спачувала справе асветы і, са свайго боку, выдзеліла аднаразова з казны горада ў якасці грашовай дапамогі нядзельнай школе 50 рублёў, таксама ад інтэлігенцыі Вілейкі на рахунак гэтай школы паступіла 20 рублёў добраахвотных ахвяраванняў. Жадаючых вучыцца грамаце аказалася звыш 80 чалавек. Далейшы прыём жадаючых быў спынены з-за адсутнасці вольных месцаў.

Узрост паступіўшых у нядзельную школу быў ад 14 да 45 гадоў. Галоўны кантынгент (2/3 паступіўшых) складалі дзяўчаты. Паступіла некалькі замужніх жанчын. Сярод навучэнцаў сустракаліся сямейныя пары, бацька і сын, бацька і дачка.

У школе выкладаліся: закон Божы, рускае і славянскае чытанне, пісьмо, лічэнне ў межах першых чатырох правіл арыфметыкі, а вучаніцам, акрамя таго, — хатняе рукадзелле. Заняткі праводзіліся вечарам два разы на тыдзень, урок працягваўся 2 гадзіны. Для рукадзелля былі асобныя гадзіны. У летні рабочы час вучэбныя заняткі праходзілі толькі па нядзелях. Загадчыкам у школу запрасілі настаўніка мясцовага павятовага вучылішча сп. Шалепіна, а выкладаў у ёй настаўнік прыходскага вучылішча сп. Паўлавец; загадчыца чайной пры Вілейскім народным доме П.Давідовіч прапанавала свае бясплатные паслугі ў правядзенні заняткаў па рукадзеллю.

## Народныя чытанні

Асвета народных мас не абмяжоўвалася толькі навучаннем у школах. У той час былі шырока распаўсюджаны маральна-рэлігійныя народныя чытанні. Для больш жывога ўяўлення пра гэтыя мерапрыемствы можна прывесці радкі са справаздачы аб арганізацыі чытання ў Вязыні. "Загадчыкам гэтага пункта быў мясцовы святар І. Імшэннік. Пад памяшканне для чытанняў быў выдзелены зборны пакой Вязыньскага Валаснога Праўлення. У 1911 годзе правялі 7 чытанняў: у мястэчку Вязынь – 6 і ў Суднікаўскім народным вучылішчы – 1. Народу прачытаны лекцыі: "Дзе праца, там і шчасце", "Кулікоўская бітва", "Аб Святых мітрапалітах Аляксеі і Філіпе", "Аб Святым Мікалаі Цудатворцы", "Аб свяце Ражаства Хрыстова". Наведвальнікаў кожны раз было не менш за 300-500 чалавек, і сярод іх навучэнцаў – не менш за 150 чалавек, а ўсяго перабывала каля 3000 чалавек. Часцей наведваюць чытанні праваслаўныя, але сярод наведвальнікаў сустракаліся і каталікі. Прыцягвае ўвагу слухачоў, акрамя цікавасці да зместу чытання, цудоўны ліхтар з выявамі, якія дэманстраваліся старшым настаўнікам Вязыньскага 2-класнага вучылішча, а лектарамі былі – загадчык пункта, пісьменныя сяляне, настаўнікі і настаўніцы народных школ. Чытанне народ больш любіць бытавога характару. Стаўленне народа да чытання ахвотнае. Калі б не было аб'яўлена народу пра чытанні, заўсёды будзе дастаткова жадаючых слухаць".

Каментуючы гэтыя радкі, хацелася б звярнуць увагу на колькасць наведвальнікаў чытанняў. У мястэчку Вязынь тады пражывала 602 чалавекі, у маёнтку Гацэвіча Вязынь – 134 чалавекі, у тым ліку старых і дзяцей. У суседніх сёлах было жыхароў значна менш. Так што ўяўляецца малаверагодным, каб лічба 300-500 адпавядала сапраўднасці. Пра гэта можа сведчыць і той факт, што нават у наш час цяжка знайсці памяшканне, якое б умяшчала 500 чалавек.

## Выстаўкі ручных работ

Для стымулявання народнай творчасці ў школах і для ўмацавання іх матэрыяльнага стану штогод у Вілейцы праходзіла выстаўка жаночых ручных работ. Вось як апісвае хроніка тых часоў такое мерапрыемства. "Па прыкладу мінулых гадоў з 17 красавіка 1902 года ў памяшканні Вілейскай царкоўна-прыходскай школы была адкрыта такая выстаўка рукадзельных работ жаночых царкоўна-прыходскіх школ Вілейскага павета. Працягвалася яна тры дні. Перад адкрыццём выстаўкі на плошчы насупраць школы старшынёй аддзялення быў праведзены малебен. Выстаўка займала два даволі светлыя і прасторныя пакоі царкоўна-прыходскай школы. Дзякуючы арганізатарскім здольнасцям загадчыка выстаўкі Ф. Разанава, рэчы былі раскладзены і развешаны з густам і стваралі цудоўнае ўражанне. Усяго ад 12-і царкоўна-прыходскіх школ, ад Вілейскай нядзельнай школы было прадстаўлена 234 прадметы, ад Стара-Краснасельскай царкоўна-прыходскай школы рэчы паступілі 24 красавіка – праз чатыры дні ад пачатку выстаўкі. Хоць па колькасці работ было і меней, але па якасці яны былі значна лепшымі, адрозніваліся асаблівай чысцінёй і ахайнасцю і нават вытанчанасцю".

Продаж работ на выстаўцы ў параўнанні з мінулым годам паменшыўся, напэўна, таму, што работы былі значна лепшымі і больш дарагімі, не заўсёды даступныя для простага народа, прычым лепшыя работы былі прададзеныя ў школах на месцах. Усяго прадалі 234 прадметы на суму 181 рубель 57 капеек.

## Дарогу праваслаўю

Нягледзячы на шырокі ахоп насельніцтва адукацыяй і, здавалася б, усеагульную роўнасць у магчымасці вучыцца для ўсіх слаёў насельніцтва, усё ж страх перад каталіцызмам і яго адмаўленне з боку Расійскіх уладаў адчуваліся і ў XX стагоддзі. Царская адміністрацыя свята прытрымлівалася настаўленняў генерал-губернатара Мураўёва. Не дапусціць польскамоўнае каталіцкае насельніцтва да адукацыі, а значыць, у выніку і да будучай службовай кар'еры, – заставалася прыярытэтным накірункам таго часу. Так, напрыклад, у правілах прыёму вучняў Вілейскай двухкласнай настаўніцкай школы дакладна ўказаны выключныя правы праваслаўнага насельніцтва:

"Савет Вілейскай двухкласнай настаўніцкай школы даводзіць да ўсеагульнага ведама, што ў наступным 1908-1909 вучэбным годзе ў школу будуць прымацца ва ўзросце ад 13-17 год, праваслаўнага веравызнання. Жадаючыя паступіць у 1 клас павінны даслаць свае прашэнні загадзя на імя Савета школы з прыкладзенымі дакументамі – выпіска з метрыкі аб часе нараджэння і хрышчэння, пасведчанне ад мясцовага святара аб прыстойных паводзінах і абавязацельства аб акуратным і своечасовым ўзносе платы за ўтрыманне...".

Добра адладжанай сістэме адукацыі, адаптаванай да ўмоў быту насельніцтва і да палітыкі тагачаснай Расійскай імперыі, кастрычніцкім пераваротам 1917 года было прадвызначана знішчэнне. Пачыналася новая старонка ў гісторыі развіцця народнай адукацыі.

Стэфан ПЛАВІНСКІ.

# Разьбяр па дрэве з Жупранаў

**АШМЯНЫ. У Жупранах Часлава Сухадольскага ўсе ведаюць як майстра-разьбяра па дрэве.**

Яму 73 гады, але працуе ён і цяпер, хаця толькі што выйшаў з бальніцы. Хатні тэрмометр Часлаў Адамавіч упраавіў у драўляны ветраны млын. Хоча захаваць для ўнукаў успаміны пра старажытныя традыцыі.

Калі вырастуць, то не ўбачаць сапраўдных ветракоў. Такіх, як былі ў дзяцінстве Часлава Адамавіча. Не пакаштуюць свайго хлеба, які пяклі раней на кожным навакольным хутары. Знікаюць традыцыі.

Печ, якая стаіць у хаце Сухадольскіх, яшчэ памятае пах свойскага хлеба, які пякла маці Часлава Адамавіча. А цяпер лёс печы прадвызначаны.

– Як ачуняю, дык знясу печ, што стаіць у хаце. Навошта гліну без толку трымаць? Лепш ванначку для дзяцей пастаўлю.

Часлаў Сухадольскі больш звяроў і птушак выразае. Захапленне з'явілася яшчэ ў дзяцінстве, калі кароў пасвіў. Пасля вайны пайшоў у вячэрнюю школу: днём працаваць трэба было, каб пракарміцца. Бацька загінуў на вайне, Чэсік з маленства ўзяўся за плуг.

Часу на захапленне стала менш. Потым усё жыццё – праца ў калгасе: трактарыстам, камбайнерам. Калі перасяліўся ў Жупраны з суседняга хутара (не захацеў ісці ў прымакі, як цяпер смяецца), сам пабудаваў хату.





Драўляныя вырабы Часлава Сухадольскага ўпрыгожваюць класы Жупранскай школы. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Ёсць і яшчэ адно захапленне ў нашага героя – літаратура. Чытаў Купалу, Коласа, Багушэвіча. Пісаў і чытаў суседзям свае вершы. Але чытаць класікаў хутка кінуў. Каб не папракаць сябе ў пародыі. Адчуваў у сваіх вершах уплыў вялікіх. Траплялiся ледзь ці не агульныя вобразы, метафары, нават радкі атрымліваліся. Вось дзе сказаўся недахоп школьнай і літаратурнай адукацыі...

Драўляныя птушкі і звяры ёсць у многіх жупранскіх дамах. Большую частку сваіх работ Часлаў Адамавіч падарыў сваякам і суседзям. Ёсць яго звяркі ў мясцовай школе: яны стаяць у кабінеце беларускай мовы.

Творы Часлава Сухадольскага знойдуць сваё месца ў новым краязнаўчым музеі, які плануюць адкрыць у Жупранскай сярэдняй школе. Часлаў Сухадольскі гаворыць, што марыць зрабіць нешта большае. Адчувае ў сабе нерэалізаваны патэнцыял. Гаворыць, не ўсе задумы рэалізаваў. Хоча стварыць з дрэва нешта, на яго погляд, больш значнае. Маці Божую, напрыклад. Галоўнае, каб здароўе дазволіла.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Разьбяр па дрэве Часлаў Сухадольскі з Жупранаў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# Юрый Церабун: час пераасэнсаваць жыццё

**МАЛАДЗЕЧНА. 34 гады Юрый Церабун аддаў музыцы, бурліваму жыццю мастацтва. Цяпер ён прысвяціў сябе прыродзе, палям, козам – вёсцы.**

Нарадзіўся Юрый у Польшчы на Беласточчыне ў 1944 годзе. Маці – гаспадыня, бацька – піларамшчык. У 45-м сям'я з пяццю дзецьмі пераехала ў Растоўскую вобласць, у Сальск. Бо на Беласточчыне было шмат бандаў. У Сальску пражылі некалькі месяцаў. Юра – самы малодшы сын – цяжка пераносіў 37-градусную спякоту. У думках яго нават пахавалі. Цяпер ён з абурэннем і ўсмешкай кажа: "Такога артыста!?". Бацька дабіўся, каб сямейства перасялілі ў Беларусь.

Трапілі ў Солы, што на Смаргоншчыне. Трое сутак на пероне праседзелі. Потым нейкая незнаёмка падышла і забрала іх да сябе. Пасяліла ў хляве. Пачаставала бульбай са свінога чыгуна. Юрый шкадуе, што аніякіх сувязяў цяпер з ёй няма. Гаворыць, манумент бы жанчыне зрабіў. Цяжка было сям'і, працавалі шмат. Бацьку – выдатнага рабацягу – не пакідала мара аб працы на лесазаводзе. Урэшце збылося.

Сям'я пераехала ў Смаргонь. Смаргонскі лесазавод даў пазыку – 40 бярвенняў. Пабудавалі хату. Больш за ўсё тут Юра гуляў з братам Валодзем. Сяброўства з ім працягваецца і да цяперашняй пары. Абодва мастакі, абодва паэты, толькі Уладзімір – скульптар, а Юрый – музыкант. Яны нават нарадзіліся ў адзін дзень. Музыка была агульным захапленнем усёй сям'і. У хаце заўсёды спявалі, ды яшчэ на 3-4 галасы. А песні — і польскія, і ўкраінскія, і беларускія, і рускія. "Песняроўскія", як адну, ведалі.



Маладзечанскі музыкант Юрый Церабун. Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.

У 7 гадоў Юра першы раз у жыцці пачуў, як гучаць цымбалы. Нейкі старшакласнік у школе іграў. "А ў 8 гадоў, – з усмешкай кажа Ю.Церабун, – і я стаў "цымбаліць". Напэўна, ён і не здагадваўся, што праз шмат гадоў прыдумае фестываль "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы", што традыцыйна праходзіць у Вязынцы.

Жыццё звяло Юрыя з Аляксандрам Дзяругам – Смаргонскім Макаранкам, як яго цяпер называюць. У той час ён у Смаргонскім Доме культуры кіраваў ансамблем народных інструментаў. А.Дзяруга даў хлопцу цымбалы, палачкі і ключ. Прычым ключ не толькі ад інструмента, а і ад музыкі, мастацтва. Ю.Церабун гаворыць, што вось тады і адчуў сябе чалавекам. Так ішоў час. Сталеў ён, сталелі ягоныя думкі. Усё больш асэнсоўваў чалавечую годнасць...

Закончыў Маладзечанскае музычнае вучылішча. 5 гадоў адпрацаваў там. З цымбаламі разлучыць яго было ўжо нельга. Нават у арміі, калі служыў у Баранавічах, іграў. Хутка пасля таго, як забралі служыць, жонка прыслала багажом інструменты і ноты. Гаворыць, што яна такая цярплівая і заўсёды разумее яго. Дарэчы, да арміі Ю.Церабун ставіцца станоўча. Лічыць, што ў цяперашняй арміі ўсё ў норме. І кожны мужчына павінны прайсці гэтую школу.

Любоў да музыкі Юрый перадаў і сваім дзецям. Дачцэ параіў скрыпку, а сыну – віяланчэль. "А ўвогуле, – кажа Ю.Церабун, – я шмат вучняў "напладзіў". Яны ўжо цяпер іншых дзяцей вучаць. Юрый заўсёды распрацоўваў новыя методыкі навучання. Верыў, што кожны вучань таленавіты. Варта ўмець раскрыць гэты талент і падтрымаць яго. Ю.Церабун бясконца ўдзячны сваёй настаўніцы Ядвізе Раздзялоўскай. Менавіта яна навучыла яго прасіць прабачэння ў вучняў. У нейкі час Юрый Церабун адчуў стомленасць. Ад мітусні, музыкі, канцэртаў, мастацтва. Здавалася, ўсё гэта было нейкім брудным. Меркаваў, што самае лепшае ён ужо аддаў. І лепш сысці своечасова, каб слава засталася ранейшай.

Не, ён не пакінуў музыку. Ён прысвячаў яе сваім вучням. Але захацелася нечага светлага і спакою.

Другі год Ю.Церабун разам з жонкай жывуць на сваёй дачы, што ў Заскавічах. "Калі размаўляю з селянінам, – так натхнёна кажа Юрый, – я бачу чалавека, які не згубіў чалавечае аблічча. Вось дзе жыццё, праца – усё, як на далоні...".

Два разы на год – на Вербную і Вялікдзень – ён ходзіць у царкву. "Я веру, што над намі ёсць нешта вышэйшае. Кожны чалавек калі-нікалі звяртаецца да бога. Добра, што і дзяржава вярнулася да царквы".

Цяпер у Юрыя Церабуна ёсць досыць часу асэнсаваць жыццё. І займацца чым толькі душа пажадае. Напрыклад, піша пейзажы, вершы. Ці асвойвае штосьці новае. Або ўдасканальвае тое, што ўмее. Робіць палачкі для цымбалаў з дубу і вішні. У любой справе чалавек павінны быць мастаком. Лічыць, усё трэба рабіць прафесійна. І займацца козамі, як цяпер, таксама. Дзеля іх усё робіць па-навуковаму. І рэжым у іх ёсць, і выхаванне. Уся педагогіка, смяецца Юрый, перайшла на коз. Ставіцца да Машанькі, Мулі і Белачкі, як да людзей. Кажа: "Памыем іх шампунем!..". Яшчэ ў гаспадарцы 5 курачак ёсць. Лечыць іх, калі хварэюць. І 14-гадовая дварняка Зіта. Гэта падарунак ад захавальніка хаты-музея Ф.Багушэвіча ў Кушлянах Міхаіла Ляпехі. Нядаўна Ю.Церабун камін склаў. "Так што, – гаворыць, – у мяне тут цывілізацыя. Ну, а багацце... Не жылі багата, няма сэнсу і пачынаць".

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПАРТРЭТ

# Спартыўная пасада

**Заканчваем публікацыю інтэрв'ю з загадчыкам аддзела па фізкультуры, спорту і турызму пры Маладзечанскім райвыканкоме Аляксандрам Кавалёвым.**

**– Зараз Вы адказваеце за ўвесь спорт (і фізкультуру, і турызм) у раёне. Як прыйшлі да гэтай пасады?**

– На "Спадарожніку" працаваў да 1992-га. Аднак вытворчасць літаральна "загібалася", прыйшлося шукаць іншыя крыніцы заробку. Тры гады займаўся камерцыйнай дзейнасцю. Потым быў інструктарам па спорце. Такім чынам да практычных заняткаў дабавіўся арганізацыйны досвед, справа, што называецца, пайшла. У 1996 годзе мяне запрасілі ў якасці супрацоўніка ў аддзел па фізічнай культуры, спорце і турызме, а ўжо праз паўгода прызначылі яго загадчыкам.

**– Маладзечанскі раён адрозніваецца ад усіх іншых у рэгіёне, дзе большасць інфраструктуры сабраная ў гарадах-цэнтрах. Вам жа прыходзіцца працаваць асобна.**

– Нам выдзяляецца 0,3% грошай з раённага бюджэту, гэта найменшы радок расходаў. На іх трэба выплачваць зарплату, утрымліваць ДЮСШ, праводзіць запланаваныя мерапрыемствы.

ДЮСШ пры нашым аддзеле (дырэктар **Наталля Шаліма**) працуе з 1999 года. Напачатку была цякучасць кадраў, але зараз усё стабільна і нармальна функцыяніруе. 150 дзяцей займаюцца ў трох аддзяленнях. Гэта конны спорт (Палачаны, 2 трэнеры), плаванне (Чысць, 2 трэнеры) і грэка-рымская барацьба (Заскавічы, Краснае, Лебедзева, Турэц-Баяры, Чысць; 3 трэнеры).


Загадчык Маладзечанскага раённага аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму Аляксандр Кавалёў з калекцыяй спартыўных узнагарод, якія выйгралі ён і яго сям'я. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Ёсць ДЮСШ пры прафсаюзах аграпрамысловага комплексу (дырэктар **Ігар Лук'янец**). 300 дзяцей займаюцца ў 6 населеных пунктах з 10 трэнерамі. Большасць – футболам, таксама ёсць лёгкая атлетыка і баскетбол. Дарэчы, не ўсе трэнеры працуюць на поўную стаўку, хтосьці – на паўстаўкі, хтосьці – на чвэрць. А яшчэ на месцах існуе ДЮКФП – дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі (дырэктар **Уладзімір Луцкі**). Тут 650 дзяцей з 12 школаў раёна.

Галоўнае, што гэтыя спартыўныя школы адна адну не перакрываюць, а наадварот зладжана дапаўняюць. Таксама функцыяніруюць ФАЦы – фізкультурна-аздараўленчыя цэнтры. Іх чатыры: Заскавічы, Лебедзева, Радашкавічы і найлепшы ў Беразінскім.

**– Неяк на Беларусі слабавата з турызмам. Я маю на ўвазе ўмовы для замежных турыстаў, якія пакідалі б сваё грошы ў нашых прыгожых і слаўных гісторыяй мясцінах. На рэспубліканскім узроўні існуе Міністэрства спорту і турызму, таму ў назве вашага аддзела таксама ёсць гэта слова.**

– Мы праводзім злёты, дзіцячыя і дарослыя. Прынялі праграму развіцця на пяць гадоў. У мінулым годзе распрацаваны турыстычныя маршруты па раёне: пяць веласіпедных, шэсць пешых, некалькі водных. Яны праходзяць па памятных месцах.

**– Што ўдаецца правесці?**

– Унутрыраённыя спартакіяды. Круглагадовая сярод школьнікаў (базавыя школы асобна ад сярэдніх) у дванаццаці відах спорту. Сярод сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Сярод дапрызыўнай моладзі (летняя і зімовая). Сярод ФАЦаў, гэта значыць, па месцы жыхарства. Сярод калгасаў і асобна прадпрыемстваў з установамі. Сярод кіруючых работнікаў: у сакавіку за адзін дзень каля 50-70 чалавек спаборнічаюць у валейболе, стральбе і шашках.

Праводзім два традыцыйныя сур'ёзныя турніры з удзелам прыезджых спартсменаў. На грэка-рымскую барацьбу ў Чысці памяці воіна-афганца Сяргея Новікава кожны сакавік з'язджаецца каля трохсот юнакоў. А 1 мая па тэрыторыі горада і раёна праходзіць лёгкаатлетычны прабег памяці экіпажа Мікалая Гастэлы. Марафон, 10 км, 5 км, 2 км. Збіраем каля двухсот удзельнікаў. Яшчэ сёлета арганізавалі ў Беразінскім адкрыты турнір па армрэстлінгу. Адным словам, спартыўнае жыццё ў раёне не стаіць на месцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## Лыжны дэбют

**МАЛАДЗЕЧНА. У сакавіку ў Барысаве прайшлі спаборніцтвы па лыжным турызме.**

У іх удзельнічала таксама і каманда ад Маладзечна, у склад якой уваходзіла 11 чалавек.

Праграма спаборніцтваў была раздзелена на 2 этапы. Першы этап уключаў у сябе маркіраваную трасу з перашкодамі, па праходжанні якой было занятае 3-е камандные месца. Другі этап уключаў праходжанне схілу з тармажэннем, пад'ём па вяроўцы ўгору, слалам, лавінанебяспечны схіл, лядовая пляцоўка і транспарціроўка пацярпеўшага. Каманда ў гэтым этапе заняла 6-е месца.

У асабістым заліку маладзечанцы высокіх вынікаў не дасягнулі. Па заканчэнні ўсіх этапаў – 6-е месца сярод 10 каманд. Трэба адзначыць, што ў спаборніцтвах такога роду маладзечанская каманда ўдзельнічае першы раз.

**Яўген САВІЦКІ, удзельнік спаборніцтваў.**

## Табло

■ ДЗЮДО

Юніёрскае першынство краіны прайшло ў Мінску.

Маладзечанцы, выхаванцы трэнера **Вячаслава Дзеравянкі**, прывезлі два прызавыя месцы. Максім Хітрык быў другім у вазе да 90 кг, а **Антон Заянчкоўскі** – трэцім у вазе звыш 90 кг.

■ БАТУТ

ВІЛЕЙКА. Выхаванцы ДЮСШ 1987-90 г.н. **Яўген** і **Ілья Арцімовічы**, **Андрэй Барбук**, **Барыс Роўда** (трэнер **Пётр Зайцаў**) ездзілі на рэспубліканскія Алімпійскія дні моладзі ў Магілёў.

Яны прадстаўлялі сваю вобласць (больш нідзе на Міншчыне скачкі на батуце не развіваюцца) і занялі трэцяе месца сярод шасці каманд.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

МІНСК. Прайшло першынство рэспублікі па ўзросту 1986-87 г.н.

Вызначыліся маладзечанцы **Яўген Мучынскі** (два 2 месцы на 1500 м і 3000 м), **Аляксандр Камінскі** (3 месца на 2000 м з перашкодамі), **Марына Колбун** (3 месца на 1500 м з перашкодамі) і смаргонцы **Вікторыя Радчук** (два 2 месцы на 60 м і 200 м), **Дар'я Рэут** (2 месца на 60 м з бар'ерамі).

МАЛАДЗЕЧНА. Адбылася матчавая сустрэча дзесяці каманд з розных куткоў рэспублікі. Рэгіён прадстаўлялі гаспадары, смаргонцы і пасланцы Івянца Валожынскага раёна. Было па 6 бегавых і па 3 скачковыя дысцыпліны, а таксама штурханне ядра. З прадстаўнікоў рэгіёну першыя месцы занялі маладзечанцы **Павел Вашынка** (800 м і 1500 м), **Дзяніс Кананові**ч (ядро, 60 м з бар'ерамі), **Марыя Крук** (вышыня), **Алена Харытон** (ядро) і смаргонцы **Мікалай Баран** (400 м), **Павел Міклашэўскі** (200 м).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

29-30 сакавіка, Маладзечна, басейн

Традыцыйны плавальны марафон

У суботу з 14-00 – старт жанчын на 10 км, у нядзелю з 9-00 – старт мужчын на 20 км.

■ ФУТБОЛ

## Міжсезонне заканчваецца

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнія кадравыя навіны мясцовага клуба.**

У арэнду тэрмінам на адзін год узятыя паўабаронца 1984 г.н. **Канстанцін Якубоўскі** з БАТЭ і тры гульцы жодзінскага "Тарпеда": варатар 1986 г.н. **Міхаіл Атрашкевіч**, паўабаронца 1983 г.н. **Антон Тураў**, нападаючы 1982 г.н. **Уладзімір Кухлей**. А вось мясцоваму выхаванцу Дзянісу Мятліцкаму мяркуецца адшукаць новую каманду. Не падышлі клубу Вячаслаў Векшын, Ігар Рудак, Канстанцін Кайгародаў і Дзмітрый Паўлаў, якія былі на праглядзе. Ад'езд у Польшчу на перадсезонны збор сарваўся з-за нявысветленых фінансавых пытанняў.


Нападаючы "Маладзечна-2000" Віталь Макрыцкі ў гэтым міжсезонні забіваў больш-менш стабільна і з'яўляецца на сённяшні момант галоўнай надзеяй клуба ў атацы. Якую ж гульню Віталь пакажа ў чэмпіянаце? Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

18 сакавіка. Манеж. Маладзечна-2000 – Нёман (Гродна) 2:2 (1:0)

Галы: Кабельскі (40), Пазняк (85-пен); (50), (55)

21 сакавіка. Ліда, снег. Маладзечна-2000 – Ліда (Д2) 2:3 (1:1)

Галы: Макрыцкі (33), Маляўка (78); (27), (80), (85)

24 сакавіка. Манеж. Маладзечна-2000 – Крышталь (Смаленск, Д2) 0:4.

СМАРГОНЬ. Першы дамашні матч ФК "Смаргонь" правядзе 27 красавіка ў нядзелю супраць сталічнага "Дынама-Юні".

22 сакавіка. Манеж. Смаргонь – Баранавічы 3:2 (0:2)

Галы: Грабаздзін (63), Скарацін (75), Жырун (79); (31), (35).

Аўтары галоў знаходзяцца на праглядзе. Гэта паўабаронца 1983 г.н. **Андрэй Скарацін** з "Оршы" і нападаючы 1979 г.н. **Юрый Жырун** з "Ліды".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Смаргонскі чэмпіёнскі спецклас

**СМАРГОНЬ. Пастаянна з поспехам гуляюць дзяўчаты з мясцовай СДЮШАР 1989 г.н. Яны вучацца ў баскетбольным спецкласе (трэнер Жанна Грэхава).**

На дамашнім міжнародным турніры прымалі гасцей з расійскіх Масквы і Белграда, малдаўскага Кішынёва, беларускіх Светлагорска і Ліды. У кругавой барацьбе ўсіх перамаглі, заняўшы першае месца. Прызёрамі сталі Масква і Кішынёў. Матчы з гэтымі сапернікамі прайшлі ў роўнай барацьбе, перавага складала 5-7 ачкоў.

У спаборніцтве дзіцячай баскетбольнай лігі ўсё без праблем. І трэці тур у Мінску, і чацвёрты дома прайшлі без ачковых страт. Напярэдадзе ў красавіку фінальны этап у Мінску. Спачатку сустрэча ў паўфінале з камандай Брэсцкага раёна, а іншую пару там складуць сталічныя СДЮШАР-10 і "Гарызонт".

Лідэрамі калектыву з'яўляюцца **Наталля Грышан**, **Ганна Буцьянава**, **Анастасія Захарэўская** і **Кацярына Аляксандрава**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

## Удалыя старты маладзечанцаў

**Выхаванцы маладзечанскай КДЮСШ прафсаюзаў 1990-92 г.н. удала выступілі на міжнародных спаборніцтвах.**

ТАМБОЎ. У расійскім абласным цэнтры сабралася 8 каманд. У складзе Мінскай вобласці ездзіла **Алена Верамей**. Яна перамагла на трох дыстанцыях, сярод якіх дзве брасавыя, а таксама ў мнагаборстве па суме выступленняў.

НАВАПОЛАЦК. З нагоды 45-годдзя горада сабралася 18 каманд. Два першыя месцы (100 і 200 м брасам) у **Кацярыны Сушчэні**, а яе сястраблізнятка **Анастасія** на гэтых дыстанцыях заняла другія месцы. Кацярына стала трэцяй у мнагаборстве. А **Аліна Сухвал** – другая ў мнагаборстве па сваім узросце. Для гэтага ёй спатрэбілася заняць тры другія месцы рознымі стылямі. Па два другія месцы ў **Канстанцына Ісачанкава** (вольны стыль) і **Юліі Колбун** (батэрфляй). Адно другое месца ў **Вольгі Уткінай**. Трэнеры маладзечанскіх плыўцоў: **Уладзіслаў Антонаў**, **Людміла Крывецкая**, **Уладзімір Міхайлаў**, **Алена Рутхоўская**, **Аляксандр Склокін**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

